## На летнім ганачку

Да мастака Алеся Цыркунова (у цэнтры), на яго нарачанскае лецішча завіталі жаданыя госці — археолаг Эдвард Зайкоўскі з Мінска (справа) і сям'я лесніка Анатоля Караткевіча з салаўінага хутара, што ў суседнім раёне. Кожны радуецца сустрэчы па-свойму: і дарослыя, і дзеці, і аўтар здымка, і гаспадар, які, дарэчы, гэтую лазню зладаваў сваімі рукамі.



Фота: Аляксандр Гутоўскі


## SUMMARY

**LAND Lake Svityaz is one of the most enchanting bodies of water in Belarus. However, the historical panorama of this natural nook is now marred by alarming reports of environmental dangers threatening the unique lake. An article entitled A Mirror Of Fairytale Reflections / pp 3, 26-29.**

LYCAEUM The authors of this article feel that people need to be taught a caring attitude towards woodlands so that Belarus' wealth of forests may serve numerous generations of Belarusians to come. Across The Threshold Of The Temple : Forest Ethics / pp 4-8.

**PATRIOTICA Catholic priest and Belarusian poet Kazimir Svajak's diaries are filled with fervent, lofty feelings towards nature and his homeland. "I Love You, I Love You So Strongly..." / pp 10-11.**

FREEDOM DAY On March 25, more progressively-minded Belarusians celebrate the date on which the Belarusian Popular Republic was first proclaimed. As per the tradition, people went out into the streets of Minsk this year only to be met by cohorts of militarised militia and armoured vehicles. Over 30 journalists and diplomats were arrested. Belavezhskaya Pushcha's editor-in-chief, Valery Dranchuk, was an eyewitness and victim of this encounter. His essay is entitled Un-Ecological Cleanup / pp 12-13.

**MARTYROLOGY Ancient trees do not have the right to stay alive. Such monstrous decisions are regularly made by city authorities and many healthy old trees are being chopped down as a consequence. Tree-Destroyers In Urban Open Spaces / pp 14-15.**

COUNTERPOINT Famous environmentalists from the non-governmental sector argue with the author of a Belorusskaya Gazeta article entitled The Worldwide Flood : Green Subterfuge. See Beat "The Greens", or Passions Aroused By A "Mafiosi" Article / pp 18-21.

**THE RIGHT TO VETO Belavezhskaya Pushcha was the initiator of a picket aimed to make the public more active in standing up for biosphere values. The result is a photo reportage of documents and commentaries entitled The Green Picket Gathers Supporters / pp 22-23.**

BELAYA VEZHA (WHITE TOWER) Two of the newspaper's contributors, Sasha Godina and Mark Bence, travelled to lands some people are unable to reach even in their imagination. Peru, mountainous landscapes, rainforests... Some photos entitled Peruvian Motifs / p31.


З любоўю да ўлоння

# Белавежская Пушча




Спецвыпуск
**2000 год -- Год вады і лесу**

№ 2 (23) 2000


**Аўтарская газета Валерыя Дранчука**

Край
Дзень волі
Ліцэй
Патрыётыка
Кантрапункт
Анталогія
Спеў
Права veto
Альбом

**Беларускае прыродалюбнае асветна-публіцыстычнае выданне**



**Magazine edited and published by Valery Dranchuk**

Белавежская Пушча

BIELAVIEZHSKAYA PUSHCHA
Magazine edited and published by Valery Dranchuk

**Motto: With a love for Mother Nature**

Contact: 220088, Miensk, Ivanauskaya st., 38-16,
Phone 8217 236-50-76, fax 220-23-53
E-mail: NPpushcha@irex.minsk.by

© прыродалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета **год выдання шосты** пасведчанне аб рэгістрацыіі №125 ад 27.06.96

**Заснавальнік і рэдактар** Валеры Дранчук

**Макет, вёрстка** Валеры Дранчук, **карэктура** Уладзя Ляская, **summary** Марк Бэнц, Аляксандра Годзіна

**Адрас для допісаў** 220088, Мінск, Іванаўская, 38-16 тэл.236-50-76, факс 220-23-53. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак

Падпісана ў друк 30.06.2000. Фармат 60x84 1/8. Наклад 2200асобнікаў. Кошт дамоўны. Замова №1626Надрукавана ў друкарні выдавецтва **"Беларускі Дом друку"** (220013, Мінск, праспект Францішка Скарыны 79)

ПРАЧЫТАЎ — «Б-П» — ПЕРАДАЙ ДРУГОМУ



# Слова рэдактара

**Х**очацца заўжды спадзявацца на лепшае. А найбольш абнадзейвае моладзь. У адным з артыкулаў гэтага нумара згадваецца экспедыцыя юных эколагаў на Свіцязь. Яны ўсё там як след абгледзелі і ў сваіх парадах, як далей уладкоўваць лёс гэтай слыннай мясціны, прапануюць, апроч іншага, умацоўваць берагі возера валунным матэрыялам. Падказка слушная, хоць і досыць працаёмкая. Але я пра штo?

**Х**то ведае, магчыма, аўтарам гэтай прапановы давядзецца не сёння, заўтра самім жа і брацца за справу. Кажу гэта не толькі таму, што наша краіна элементарна бяднее, далей і далей адыходзячы з еўрапейскага шляху і ўсё менш пакідаючы шанцаў на падобныя дзяржаўныя праекты, але таму, што сённяшняя падказка юных даследчыкаў мусіла б мець працяг, перайсці ў шырокую ініцыятыву ды паступова ўнезалежвацца, значыць сабою пэўны грамадскі рух за аднаўленне водных крыніц Беларусі.

**Г**азета «Белавежская пушча» ---лаўрэат Еўрапейскай прэміі Генры Форда «За захаванне культурнай спадчыны і навакольнага асяроддзя» 1999

**Р**эч у тым, што ў Свіцязі павінны быць свае арганізаваныя заступнікі ў форме грамадскай арганізацыі. Нефармальны працяг экспедыцыі можна ўявіць разнастайным даборам магчымасцяў: гэта і стварэнне фонда грамадскай падтрымкі Свіцязі, і арганізацыя летніх стаянак з праграмай цэлага комплекса работ — ад умацавання берагоў да прыбірання тэрыторыі, і пашырэнне школьных клубаў дапамогі Свіцязі ды шмат чаго іншага.

**М**яне асабіста не палохае перспектыва прыватызацыі возера і ягоных лясных прылегласцяў. Хутчэй — насцярожвае скрытасць распачатага працэсу, якая ўжо выразна пазначылася. Ідэю прыватызацыі лёгка спрасціць, груба спрымітызаваць. А гэта ўжо сур'ёзная пагроза. Вось тут я і падумаў, што новы гаспадар павінен паруліцца пра шырокі доступ экалагічнай грамадскасці да «казачнага возера».

**М**агчыма, гэтую праблему мы абмяркуем за «Круглым сталом» з удзелам бакоў ужо гэтым летам? Сачыце за нашымі выпускамі. Да сустрэчы ў верасні.

**Валеры Дранчук**

Літара «П», скарыстаная ў малюнку назвы газеты, ўзята з кнігі «Маляўнічая Расія. Літоўскае і Беларускае Палессе», 1882









# «...Каб глянуць на возера зблізку»

***Аглядна гістарычны абсяг публікацыі дапаўняюць лірычны фотарэпартаж і nota bene рэдакцыі***

**У** цэнтры Навагрудскага павета Мінскай губерні, ля мяжы Пачапаўскай і Райчанскай валасцей, на высокім пласкагор'і, што сягае 130 сажанёў ад паверхні мора, акружанае дрымучымі лясамі, размясцілася здавён славутае ў сваім харастве возера Свіцязь», — так пачынаецца нарыс **Б.А.Данейкі** «Лясы па берагах возера Свіцязь» (раздзел «Ахова помнікаў прыроды», «Известия Минского общества любителей естествознания, этнографии и археологии. Выпуск 1», Мінск, **1914**).

Даўнасць напісанага, як ні дзіўна, сёння толькі падвышае актуальнасць убачанага ды прачутага ў тым, ранейшым часе. Бо ўсё спазнаецца ў параўнанні цяперашчыны з мінулым.

Мусім дадаць, што з нагоды публікацыі нататак Б.А.Данейкі **«БП»** наладзіла летась троходзённую экспедыцыю да берагоў возера. Маршрут быў, бадай, класічны: Мінск -Баранавічы - Свіцязь. Дні стаялі асмягла спякотныя, ахаладзіцца ў слынным возеры кожны меў бы за шчасце. Пагатоў, калі сорак вёрстаў з гакам трэба было адмахаць на ровары — з Баранавічаў у бок Навагрудка; пагатоў, калі напярэдадзе менавіта яна, астуджальна-таямнічая Свіцязь...

***Прапануем чытачам колькі старонак нарыса ў фрагментаваным перакзе ды ў перакладзе з расейскай мовы.***

**«З незапомных часоў Свіцязь акружана німбам чароўных балад, легенд і паданняў, мае славу казачна-таямнічай, поўнай духаў, русалак, тапельцаў воднай прасторы, якая лечыць і гоіць, але патрабуе і людскіх ахвяраў, забіраючы штогод хоць аднаго няшчаснага»**

**Працяг на старонцы 27**



**Што азначае слова *ліцэй*?**

**Паводле крыніцы, гэта назва ўрочышча, дзе навучаў Арыстоцель.**

Чалавек, я маю на ўвазе цывілізаванага чалавека, мусіць увайсці ў лес з пачуццём найвялікшай пашаны, якую зведваюць людзі, калі пераступаюць парог старажытнага храма выдатнай архітэктуры. Таму, хто ўзнёс сябе да аблокаў і пачуваецца ўладаром свету, варта было б не толькі зняць капялюш перш чым рушыць у лес, але і абутак. Ён і сам гэта ў рэшце рэшт зразумее, бо лес перайначвае чалавецтва.

Вэша Куанезін
(Канада)

# За парогам храма

## *Лясная этыка: зберагчы красу і багацце*





## Ліст у рэдакцыю

Газета шмат пісала пра лес, пра шкоду лесанарыхтовак. Але долю віны за стан лесу нясе і кожны з нас, збіраючы, напрыклад, першыя вясновыя кветкі, грыбы або ягады, раскладваючы вогнішчы, выкошваючы паляны і г.д. Хацелася б даведацца больш падрабязна, як трэба паводзіць сябе ў лесе, каб не чыніць шкоду або зрабіць яе хоць трохі меншай. Бо часам чалавек, які любіць лес і шануе прыроду, можа не здагадвацца пра ўсе наступствы гэтых дачыненняў.

Напрыклад, як раскласці вогнішча, каб ад гэтага як мага менш пацярпеў лес? Альбо — што такое паляванне для лесу? Стрэс, форма чалавечай вайны супраць шматлікага ляснога жыхарства? І якія наступствы? Ці яшчэ: тэхніка ў лесе, скажам, матацыкл, грузавая машына — хіба не тая ж агрэсія, гвалт чалавечай дзейнасці там, дзе іншае жыццё?..

Пытанняў шмат. Але паспрабуйце адказаць. Спадзяюся, гэта будзе цікава іншым—накшталт кодэкса паводзін чалавека ў лесе.

**Ала Бушынская,**
*вучаніца ліцэя,*
Гомель

***Паважаная Ала!* Рэдакцыя з удзячнасцю друкуе твой ліст, бо ў ім, апроч пытання, ёсць тая заклапочаная цікаўнасць, якая ўжо кіруе чалавекам і не дае яму груба памыліцца. У тваіх пытаннях-развагах ёсць адзін з адказаў: сем разоў адмерай і не чыні таго, у чым прадбачыш магчымую шкоду альбо ў чым сумняваешся, не ведаючы ўсіх наступстваў. Гэты этычны штуршок вельмі дарэчы ў нашай гаворцы, якую, з нагоды твайго ліста, Ала, распачынаюць сёння сп сп. *Таіса Каленнікава* і *Анжэла Барысевіч*. Нашы аўтаркі працуюць у Мінскім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка на кафедры педагогікі.**

Пытанне, з якім пазнаёміла нас рэдакцыя, ёсць выдатнай падставай распавесці пра лес, лясную этыку. Дый самы час — нашы лясы гасцінна расчынілі дзверы для традыцыйных летнікаў, дзе тры месяцы запар будзе адпачываць дзятва.

Адбываецца ўсё нібы ў казцы: колькі гадзін дарогі — і нашы дзеці ўжо на ўлонках чароўнай прыроды. Яе характва кантрастуе з жылым, пераважна гарадскім асяроддзем. Колькі навокал нязведанага і таямнічага! Хочацца не адно пагля-дзець, але... пакратаць рукамі, наступіць нагой, сарваць. Вось тут і пачынаюцца правілы лясной этыкі.

Таму мы будзем звяртацца наўпрост, да нашых непасрэдных суразмоўцаў.

Дарагія дзеці! Першае, на што вы, напэўна, адразу звярнулі ўвагу, — харатство навакольнай прыроды. Дзівосныя ландышы, прыгожыя матылькі і стракозы, спеў птушак. Цудоўны свет, багацце колераў, форм, адценняў. Хочам шчыра сказаць вам: радуйцеся, любуйцеся, дыхайце водарам кветак, натуйце запісы ў дзённік, пішыце вершы... Але памятайце пра тое, што вам жа належыць і зберагчы красу прыроды. І хоць вы стаміліся ад розных правілаў за доўгі навучальны год, прыміце колькі зычлівых правілаў-пажаданняў з добрым сэрцам.

***Першае.*** Слухайце цішыню! Не шуміце. Не ўключайце на ўсю моц прыёмнік. Ад вібрацыі паветра не могуць узняцца ўзляцець чмялі, пчолы, восы, жукі ды іншыя мошкі. Шум таксама палохае птушак.

***Другое.*** Размаўляйце з кветкамі. І не рвіце іх вялікімі ахапкамі. Іх засталося не так шмат, паспрыяйце іх размнажэнню! Ці ведаеце, напрыклад, што каб з семечка ландыша вырасла расліна, трэба 7-8 гадоў!

***Трэцяе.*** Лясныя жывёлы, якіх вы сустрэлі, — нарадзіліся тут, у лесе. І нельга іх прыручаць, асабліва, калі не ведаеш, як іх пасля даглядаць. Лепш парадуйцеся шчаслівай сустрэчы, а свае назіранні запішыце ў дзённік.

***Чацвёртае.*** Калі вы расклалі касцёр у лесе, не пакідайце гэтае месца, пакуль не патушыце кожны вугольчык. У наступны раз прыходзьце сюды зноў, каб не выпальваць траву ці лясную падсцілку. Дарэчы, з аднаго дрэва можна зрабіць мільён запалак, а адна запалка можа спаліць мільён дрэў.

***Пятае.*** Смецце апошнім часам зрабілася ці не самай вялікай пагрозай лесу. Разбітае шкло можа стацца прычынай пажара, а поліэтыленавы мяшэчак, пакуль разбурыцца, праляжыць пасля вас 226 гадоў. Дый папера згніе толькі праз 2-3 гады.

***Шостае.*** У Чырвоную кнігу Беларусі занесены белая лілея, гарлачык белы, вятроўніца лясная, купальніца еўрапейская, гарлачык малы, першацвет высокі, валяр'яна двухдомная, званочак рапунцэль і шмат іншых. Вывучайце іх, каб ахоўваць, — яны на мяжы знікнення.

***Сёмае.*** У лесе сустракаюцца і ядавітыя расліны: блёкат, дурман, цыкута, мудранка, воўчае лыка. Будзьце асцярожныя!

***Восьмае.*** Птушыныя спевы — сапраўдныя канцэрты, за якія мы нічога не плацім. А птушкі яшчэ — і крылатая ахова лесу (дарэчы, садоў і паркаў). Не чапайце

**Газета «Белавежская пушча» абвясціла для сваіх чытачоў і шырокай грамадскасці 2000 год Годам вады і лесу.**

Птушкі — крылатая ахова лесу. А яшчэ аздоба, гукавы лад адвечнага храма.

На здымку **дзяцел і сойка.**

Фота: Вільгельм Дубіловіч (Мінск).

птушыныя гнёзды, не разглядайце зблізку птушанят, — не парушайце птушыны спакой. Назірайце іх ціха і непрыкметна. І вы ўбачыце куды больш.

***Дзевятае.*** Калі вы аматар калекцый, павінны ведаць, што з гэтага занятку выключаны насякомыя (сярод іх шмат чырвонакніжных відаў). Лепш прыдбайце фотаапарат — і калекцыя ваша!

***Дзесятае.*** Мурашнікі — адно з упрыгажэнняў лясных харомаў, не кажучы, што лесу не пражыць без мурашак. Не палянуйцеся, зрабіце для мурашніка агароджу, калі да вас не зрабілі.

Гэтыя правілы-падказкі далёка не поўныя. Аднак і іх дастаткова на пачатак, калі з любоўю і ласкай глядзець на прыроду.

Лес — выдатная школа для засваення іншых «зялёных» ісцін. І мы радыя скарыстацца такім выпадкам, пагатоў, што ліст Алы акурат на гэта схіляе. Знакаміты амерыканскі эколаг і адмыслоўца ў справе аховы прыроды Бары Каманер сфармуляваў «свае» законы экалогіі, якія яму паспяхова прыдаліся для вытлумачвання сучаснай экалагічнай сітуацыі. Чаму б і нам не задумацца над тым, што ўсхваляла вучонага. Наша «сітуацыя» нічым не лепшая.

***Усё павінна кудысьці знікаць .*** Гэты перафразаваны выраз паходзіць ад вядомага закона захавання рэчыва і энергіі: нішто не знікае бясследна. Такім чынам, рэчыва (смецце) трапляе ў навакольнае асяроддзе, пераходзіць з аднае формы ў іншую, перамяшчаецца з месца на месца, з аднае экасістэмы ў суседнюю, з раёна ў раён, часам «сілкуючы» ланцужкі харчавання. Усё, што чалавек скідвае вонкі ў працэсе вытворчасці, рана ці позна трапляе праз ежу, паветра, ваду ў арганізм чалавека. Што ў рэшце рэшт? Самае сумнае — розныя захворванні, старэнне, заўчасная смерць.

***Прырода ведае лепш.*** Задумаемся: сённяшнія арганізмы, вада, экасістэмы — вынік шматвяковай эвалюцыі. Што такое 2-3 мільярды гадоў! Гэта перыяд жорсткай барацьбы за існаванне, час адбору ўсяго самага жыццяздольнага. Прырода з вялікага мноства тыпаў рэчываў (напрыклад, бялкоў), з якіх будуюцца арганізмы, спыніла выбар на абмежаванай колькасці найбольш прымальных у зямных умовах. Пры гэтым Вялікі Творца на кожнае «рэчыва» паклаў адпаведнік, які б спрыяў яго гніенню. А вось тыя, што стварыў чалавек (штучныя рэчывы), адпаведнікаў не маюць. Таму і накопліваюцца, у рэшце рэшт — забруджваюць асяроддзе, заадно і лес, разбураючы цэлыя экасістэмы, прыродныя комплексы. Эвалюцыйны працэс альбо запыняецца, альбо мяняе скіраванасць, тэмп і маштабы. На думку вучонага Коза-Палянскага, можа здарыцца так, што ў недалёкай будучыні «усё жыхарства Зямлі звузіцца да чалавецтва, культурных раслін, свойскай жывёлы ды іх спадарожнікаў і паразітаў». Усё астатняе жывое будзе знішчана.

***Аніщто не даецца дарма.*** Прырода вельмі складаная рэч, і пры гэтым надзвычай дасканалая. Таму кожны крок чалавека «наперад» нясе, як правіла, адначасна і пэўныя часовыя выгады яму, чалавеку, і непапраўную шкоду. Напрыклад, меліярацыя. Так званае «паляпшэнне зямлі» звяло каласальную колькасць найкаштоўных балот, заплаціўшы «блакітным» золатам рэчак і азёр, якія або высахлі або абмялелі. У выніку мы атрымалі тое, чаго не чакалі, — апустыньванне ландшафтаў вакол водных крыніц, пылавыя буры, заняпад лясоў, змену клімату і інш. Пры такіх жахлівых глабальных стратах хіба можна казаць пра балотаасушэнне як пра нешта добрае? Плата надзвычай роспачная.

## Задумайцеся, паразважайце

### (колькі задачак для сапраўдных сяброў прыроды)

Птушкі дапамагаюць лесу першнаперш тым, што паядаюць ягоных «ворагаў»-шкоднікаў. Без іх немагчыма ўявіць лес, гэтаксама як без пошуму й паху смалы. Пачуеш голас — адразу задумаешся: якая птушка, як называецца ды як выглядае?

У лесе можна пачуць стук дзятла, траскатанне сарокі, спеў дразда…

***Разважце, адкажыце:***

1. Якіх лясных птушак вы ведаеце яшчэ?

2. Ці можаце распазнаць птушак па іхнім гуку?

3. Якую бяду птушкам могуць прынесці хімікаты, калі імі апрацоўваюцца палі або лес?

4. Якія рэдкія віды птушак жывуць у вашым лесе?

Самае шматлікае жыхарства лесу -- вы здагадаліся? — насякомыя. Адны віды «працуюць» з расліннымі рэшткамі і тым самым паляпшаюць глебу, іншыя — апыляюць расліны ці дапамагаюць чалавеку адолець лясных «шкоднікаў» (у якасці драпежнікаў альбо паразітуючы на іх). Падлічана, што адна мурашыная сям'я за дзень знішчае да 100 тысяч «шкоднікаў» лесу.









***Разважце, адкажыце:***

1. Ці ведаеце вы яшчэ прыклады, калі насякомыя выконваюць функцыі, апісаныя вышэй.

2. У чым сэнс вядомага паняцця «расліны і мошкі ўтвараюць біялагічнае адзінства»?

Толькі за адзін дзень у свеце:

— 12 тысяч барэляў нафты зліваецца ў акіян (1 барэль - 150 літраў);

— 60 тысяч барэляў нафты згарае;

— 413 ядзерных рэактараў прадукуюць 26 тон радыеактыўных адходаў;

— 56 мільёнаў тон двухвокісу вугляроду выкідваецца ў атмасферу;

--- 1500 тон хлорфторвуглявадароду знішчаюць азонавы экран;

— 140 тысяч новых аўтамабіляў папаўняюць колькасць ужо дзейных.

***Разважце, адкажыце:***

1. Наколькі праблематычна выглядаюць гэтыя лічбы на «фоне» нашых лясоў.

Цікавае свядотцтва: на планеце немагчыма знайсці хоць бы самую прымітыўную істоту або расліну, якая б не мела ў сабе вады і магла без яе абысціся.

Чалавек вельмі хутка адчувае парушэнне воднага баланса ў сваім арганізме. Страта вільгаці (6-8% ад масы цела) выклікае цяжкі стан, блізкі да непрытомнасці, а з павелічэннем гэтага паказчыка да 10-12% арганізм цалкам «калапсуе», перастае біцца сэрца.

***Разважце, адкажыце:***

1. Ці часта задумваемся пра «сэрцы» жывых біялагічных істотаў, цэлых экасістэмаў? Ці думаем, што робім, калі асушваем балоты?

2. Як вы думаеце, чаму ваду нічым не заменіш і чым вы патлумачыце яе ўнікальнасць?

**Зязюлька.**

Падабенства расліны і птушкі паэтычна зафіксавана ў назве.

Фота: Анатоль Дамашкевіч

Вада — адзінае рэчыва на зямлі, якое адначасна і ў вялікіх колькасцях сустракаецца ў вадкім, цвёрдым і газападобным станах. Гэта яна, вада, знаходзіцца ў вечным колазвароце. Энергія сонца падымае яе ў выглядзе вадзяной пары ўверх, а сіла цяжару апускае ўніз — уяўляеце, які велізарны прыродны рухавік штохвілінна працуе на нас? І расліны ў гэтым адвечным коле-працэсе з'яўляюцца самымі актыўнымі ўдзельнікамі. Уражвае і гадавы аб'ём «зробленага»: больш як 475 мільярдаў тон вады падымаецца і апускаецца ўніз па сасудах раслін.

Вада прысутная ўсюды, ва ўсёй біясферы: у адкрытых вадаёмах, у паветры, у глебе, у жывых істотах (апошнія ўтрымліваюць 80-90 % вады ад масы іх цела).

***Разважце, адкажыце:***

1. Што, на ваш погляд, спрыяе і што пагражае альбо шкодзіць воднаму балансу мясцовасці, дзе вы жывяце?

2. Намалюйце «сваю» схему колазвароту вады ў прыродзе. Як вы яе ўяўляеце і з удзелам якіх кампанентаў; калі можна — «прывяжыце» схему да мясцін, якія добра ведаеце і любіце.

Адзін гектар бярозавага лесу штогод выпарае 4700 літраў вады, гектар ельнікаў — прыблізна 43 тысячы (параўнайце: маса лісцяў на гектары бярозавага лесу складае прыкладна 5 тон, а яловых іголак — 31 тону; дзікія расліны «прапускаюць» ваду намнога хутчэй, чым культурныя).

***Разважце, адкажыце:***

1. Якую ролю ў колазвароце рэчываў і вады вядуць зялёныя расліны? Ад чаго залежыць хуткасць транспірацыі (выпарэння) у раслінаў?

Яшчэ колькі лічбаў, здольных уразіць кожнага: 650 трыльёнаў тон вады пераводзяць з зямлі ў паветра ўсе расліны зямнога шара. Дарослая бяроза, напрыклад, «выпівае» каля 70 літраў штодня, ліпа — 38. Шмат вільгаці забірае эўкаліпт, здольны ўплываць на ўзровень грунтовай вады, выпіваючы запасы верхніх пластоў колькасцю 14400 літраў за год. Мы ж… не заўважаем гэтых каласальных стратаў толькі таму, што існуе колазварот вады ў прыродзе, і вада ў рэшце рэшт вяртаецца ў глебу. Інакш балея Сусветнага акіяна праз 2100 гадоў была б вычарпаная да дна.

***Такім чынам,*** становіцца больш відавочнай схаваная веліч і дасканаласць прыроды з мноствам нябачных ўзаемасувязяў, прычын і наступстваў; глабальныя катаклізмы ёсць немінучым вынікам чалавечай дзейнасці і паводзін, не абцяжараных прынцыпамі экалагічнай свядомасці.

**Таіса Каленнікава,**
**Анжэла Барысевіч**

# Хто ведае *лес* за ўсіх лепш?

*(віктарына)*

**Які лес шуміць, а які шапоча?**

**Чаму ў сасновым лесе шмат сухіх, адмерлых сукоў?**

**Калі цвіце бэз: вясной ці летам?**

**Чаму ў ялін у лесе зелянеюць не толькі верхавінкі?**

**Ці можна ў лесе высякаць дуплістыя дрэвы?**

**Чаму на кары дрэў паяўляюцца трэшчыны?**

**Чаму лісце з верхавінак ападае апошнім?**

**З якога хвойнага дрэва «ападаюць» іголкі (на зіму)?**

**Драўніна якога дрэва прыдатная ў караблебудаванні?**

**Драўніна якога дрэва надзіва трывалая і не гніе?**

**Калі на спілаванай сасне гадавыя колцы авальныя, выцягнутыя ў адзін бок?**

**У якім лесе больш вільготная глеба: у чарнічным ці брусьнічным?**

**Што можна ў лесе заварыць як гарбату?**

**З якога дрэва вырабляюць музычныя інструменты?**

**Чым можна пачысціць зубы ў лесе замест зубной шчоткі?**

**З якога дрэва робяць запалкі?**

**Якая драўніна ідзе на выраб паперы і штучнага шоўку?**

**Чаму начныя кветкі белыя?**

**Якая птушка можа рухацца ўверх-уніз галавой па ствале дрэва?**

**Чаму на траве з'яўляецца вялікая раса?**

Адказы глядзіце **на старонцы 31.**



?

Фота: Аляксей Мацюш (АрСтудыя «Краявід»)

## Фота-адгадай

*Абодва гэтыя здымкі тояць гульню-загадку: трэба прыглядзецца і «рассакрэціць» сімпатычных лясных пеньчукоў; з іхніх фотапартрэтаў глядзяць на нас ящчэ і дзівосныя вывы-маскі, падказаныя фантазіяй аўтараў. А можа, гэта лесавічкі трапілі ў фота-аб'ектыў?*

Адказы-здагадкі **на старонцы 31.**

Фота: Валеры Дранчук (АрСтудыя «Краявід»)

?











# Школа *Салернская* так караля навучала...



*З гісторыі вечных рэцэптаў*

*Заканчэнне. Першая публікацыя ў папярэднім нумары.*



*Мусіш прызначыць сабе ты мяркоўнасць у ежы вясною.*
*Летняя спёка не час піраванняў таксама.*

*Будзь засцярожлівы ўвосень. Хай шчодрасць дароў не зашкодзіць.*
*Іншая справа зімой — спажывай, колькі хочаш!*

*Маеш ахвоту, вазьмі прыгатуй сабе соус:*
*Соль і шалфей, віно і часнок, пятрушку і перац*
*Добра змяшай — атрымаецца вострая страва.*

*Звычку ўпартую май: рукі, твар мый, як толькі надарыцца момант.*
*Шмат асалоды дае абмыванне пасля сталавання:*
*Чыстыя рукі — і зрок твой намнога вастрэйшы.*

*Хлеб, што ясі, хай не будзе гарачы. Але і не чэрствы.*
*Квашаны, порысты, добра прапечаны быць ён павінны.*
*Ў меру салёны і з добрай мукі — вось такі спажывай на здароўе.*

*Ўсё, што ясі за абедам, вадой запіваць не прыдатна.*
*Страўніку гэта благая паслуга і можа зашкодзіць.*

*З'есці яйцо — гэта добра, няхай толькі будзе*
*Вадкім і свежым яно.*

*Суп з капусты змякчае, капуста — насупраць.*
*Страўніку ж будзе найлепш, калі разам спажыць іх.*

**Цешся з паветра, шануй чысціню і празрыстасць яго, жыццядайнасць...**

Салерскі кодэкс здароўя. XIVстагоддзе

*Пераклад: Валеры Дранчук*

### Вазьмі як дар...

**Травяныя ванны**

*З хвашчу палявога*. Бяруць 4 сталовыя лыжкі леку на 4 літры вады і гатуюць 20 хвілін. Паляпшае зварот крыві. Добры сродак для ўзнаўлення падвялай скуры.

*З ядлоўцу.* Жменю пладоў (ягад) гатуюць паўгадзіны ў 3 літрах вады. Супакойвае, трымае нервы. Гэткі ж эфект мае і меліса мядовая.

**Бывайце здаровы!**



2 Зак. 1626

# Казімір Сваяк: «Хачу служыць тваім духоўным патрэбам, Беларусе»

## «Сны за волю душы народнай» сёння набываюць новае жыццё і робяць нашу вясну яшчэ больш зялёнай і зыркай

Незваротны час! Як жа я тады блізкі быў да прыроды, як зжыўся з шаптуном-борам, з зялёным гаем, кветным лугам! Быць любіў і пад навальніцай-громам, і пад гарачым сонцам, і на балючым марозе. Якое здароўе біла з майго твару!

**1911**

***17.III.*** *Бяруся ізной за рэформу свайго характару... Сцеражыся абмовы, антыпатыі. (...) Трэба маліцца за тых, каго чым-кольвек абразіў або каго не люблю. (...) Мая нясмеласць і «простасць» усцераглі мяне ад мноства ўпадаў. Застаецца адно: быць сабой і старацца характар зрабіць моцным і цвёрдым, да ахвяры скорым. Трэба мець сэрца, адданае міласна цэламу грамадзянству, асабліва бедным і крыўджаным. Такая міласць пакажа, што рабіць. Не буду ніколі скупым самалюбам.*

*Вясна.* Набліжаецца Вялікдзень. Неўзабаве адпачну на ўлонках маці-прыроды. Раджу пайсці на асобнасць кожнаму і гутарыць з ёю — скажа многа. З прыродай гаварыць трэба, з былінкай травіцы, з горкамі, з сыр-борам. Святыня людскімі рукамі пастаўлена, памагае нам маліцца, а праз малітву рабіць дабро людзям. Тым больш павінна гэтага дамагаць святыня Бога Жывога — Праўда ў цэлай красе сваёй і аздобе.

**1913**

***Жнівень.*** *Ад даўнага часу чую да цябе, маці Беларусь, асаблівую пры-вязнасць — і болей чым прывязнасць: надта глыбока гэтае пачуццё зарылася ў сэрца — пэўна, гэта міласць, каханне з сэрца. Люблю я цябе і моцна люблю. Аб'ехаў я нямала ўжо свету, шукаючы красы і праўды, а найбольш бачу той і другой у сваім родным краі, у сваёй мілай зямельцы. Стройны горы й даліны ў Татрах, прыемны малюнкі ў зямлі Кракаўскай, а ўсё ж цуднейшы наш бор вяльможны, пякней-шыя роўні і гаі нашы, а мова іх пранікае цябе цэлага, лечыць раны сэр-ца твайго. (...) Ты, браце Беларусе, выдаешся мне лепшым ад іншых народаў. (...) Праўда і шчырасць жыве йшчэ ў душы тваёй — нездар-ма ж называюць цябе «простым», даючы спазнаць, што другія народы здаўна ўжо скрывіліся. Пазнай толькі добра, хто ты, гарніся да прас-веты, і станеш сільным, а гэта сіла дасць волю духу твайму, так цяжка загнанаму і пакрыўджанаму...*

*Я не пайду шырокім разгонам людзкога рахунку. Я хачу толькі служыць тваім духоўным патрэбам, Беларусе. А яны аграмадны. Сапраўды сказаць трэба: «Жніво вялізнае, а працаўнікоў мала». Божа, дай мне зразумець і ўпэўніцца, якой жадаеш ад мяне службы.*

*13.VIII.* (...) Буду пісаць па-беларуску. Мова беларуская ёсць гладкай і згучнай: Можа служыць і да паэзіі (...).

**1914**

***Жнівень.*** *(...) Як гэта сумна, што чалавек, істота разумная, не можа змагчы найвялікшага зла на свеце — вайны... Жыццё людское ёсць найцаннейшым дарам Божым. Да жыцця, як пэўнай формы быту, кіруюцца ўсе творы. Мусім шанаваць жыццё нават малога жучка, бо права на яго згубу мы не маем. (...) Няма нічога на свеце так паніжаючага чалавека, як вайна. Роўнай пагібелі, што нясе яна людзкасці, не знаходзім у звяроў. Бог дапушчае такое зло на свет, каб знішчыць пыху людзкую. Не Бог прычына вайны — злосць людская, зайздрасць і пыха...*

**1915**

*5. V.* (...) Мой Божа, ці я ўстаю цвёрдай ступнёй на выбранай дарозе? Ах, ніколі не адбяры ад мяне гэтай надзеі, бо згіну! Дай мне цярпенне (...) Я сын таго народу, што найбольш цярпеў, цярпіць і цярпець будзе. Цярпення хачу, але такога, каторае з мяне зрабіла б чалавека стальнога характару... Народ наш... глыбокі ў жыцці сваім ціхім, скрытым, спеўным. Няхай і з маім так будзе жыццём: глыбокасць духа, шырокасць сэрца, агонь мовы і песня, песня тайнічная, бязмерна сумная, хоць *вечнай спадзеяй жывая.*

***5.VIII.*** *(...). Беларушчына мяне жыва цікавіць. Баліць мне сэрца, як чую жаргон тых, што хочуць кінуць мову родную на карысць чужой. Але я нікому не кідаюся з сваім поглядам на гэтую справу. ...Ніхто мяне не праканае, што быццам мы гаворым расейскім жаргонам. Гэта праціўна і нашай гісторыі, і нашаму бытавому пачуццю.*

**1916**

***13.V.*** (...) Буду што-кольвек пісаць. Хоць бы адзін чалавек з тварам русьняным, чытаючы гэта маё пісанне, скарыстаў і загарэўся міласцю хараства і праўды — была б для мяне ўзнагарода вялікая... Мне, што на дарозе кароткай сваёй спаткаў ужо многа асоту і вужакаў.

***30. VII.*** *(...) Чалавек абсалютнай дасканаласці мець не можа. Ёсць яна толькі ў Богу. У Хрыстусе маем найстрайнейшы ўзор характару. Каб мець характар блізкі да гэтага Боскага ўзору, патрэбна: 1) Старацца мець вялікую жыццёвую спраўнасць, якая б вучыла нас кожны выпадак жыццёвы абярнуць для карысці духоўнага развіцця характару. Назавём гэта безупыннай творчасцю духа. 2) Мець вялізную чуласць на тое, што вокал нас дзеецца, каб усё бачыць і разумець у святле вечна трывалай асновы несмяротнай ідэі. Назавём гэта дарам вышэйшае празорнасці. 3) Навучыцца болей слухаць, чым гаварыць, болей рабіць, чым малоць языком. 4) Упадкаў сваіх ніколі сабе не даруваць, спавядацца з іх і прад Богам, і прад сабой, каяцца і ісці ўсцяж наперад. 5) Дабіраць сабе лепшае таварыства людзей, але не гардзіць ані кім; мець літасць нават над злыднем, памятаючы, што і са мной магло б блага быць, каб не ласка Божая і свая асцярожнасць. 6) Прыглядацца да жыцця людзей, якіх завём «вялікімі», «святымі» — асабліва ж углядацца ў Божую постаць Хрыстуса. 7) Дужа многа думаць і разважаць над людзкім жыццём, як аб вельмі важнай і глыбокай праяве быту...*

**1919**

*27. VII. Лапеніца.* Прамаўляў тут па-беларуску. Неспадзявана добрай душой была выслухана прамова, хоць колькі асоб з мясцовай шляхты спачатку ўсміхнуліся, што «папросту» аб Богу пачаў вучыць. Людцы прывыклі клясці толькі долю сваю і грашыць па-беларуску, таму дзіўным здалося, што можна і хваліць Бога гэтай мовай... Зацікаўленне збудзілася аднак немалое — асабліва... спаміж праваслаўных.

**1921**

*30.V. Ах, гэты май; гэтыя цудоўныя чары ночы, у якіх можна ўсё зведаць і ўсё... згубіць.*

*6.VII.* (...) Няўжо жыццё так і сплыве на марах ідэалу без здзейснення сноў за волю душы народнай, да якой я жадаў бы прыкласці свае зярняткі? Змаганне з кволасцю, з бяссіллем ідзе не ў маю карысць. Божа, дай мне не пакінуць творчасці духа майго! Памажы мне быць карысным справе духоўнага адраджэння майго брата занядбанага. (...).

***

*Сярод імёнаў-постацяў літаратурнай спадчыны Беларусі асоба Казіміра Сваяка (1890-1926) называецца, бадай што, зрэдчас. Ён не быў выбітным паэтам, хоць пакінуў шмат узораў вершаванага радка, не быў і вядомым драматургам, хоць пісаў п'есы, не быў эколагам, хоць у запісах яго дзённікаў знаходзім нямала сугучнага з тым, што хвалюе сённяшніх прыродазаступнікаў. Ён быў, перш-наперш, сынам сваёй Бацькаўшчыны-Айчыны, роднай маці-Беларусі.*

*Нарадзіўся Канстанцін Стаповіч (сапраўднае імя К.Сваяка) на Астравеччыне, дзе вёска Барані. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю і, як піша энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі, абавязкі ксяндза спалучаў з адукацыйна-асветнай работай сярод прыхаджан, адчыняў у парафіі бела-рускія школы. Ягоныя «сны за волю душы народнай» сёння набываюць як бы новае жыццё і робяць нашу вясну яшчэ больш зялёнай і зыркай.*

*К. Сваяк досыць часта выяўляе сваё замілаванне беларускай прыродай; відаць, што прыродная творчасць скрозь натхняла яго, мацавала не толькі літаратурныя сілы, але духоўныя, дзейныя, грамадзянскія. У нашы дні, калі мы ўсё часцей і часцей звяртаемся да экалагічнай этыкі, месца Казімера Сваяка ў фармаванні гэтага паняцця як светагляду ў Беларусі мусіць быць незанятае і ганаровае.*

*«Хоць бы адзін чалавек, — пісаў Казімір Сваяк, трымаючы на ўвазе брата-беларуса, які прачытае «гэта маё пісанне», — скарыстаў і загарэўся міласцю хараства і праўды — была б для мяне ўзнагарода вялікая».*

*Няма сумневу, «вялікую» ўзнагароду паэт атрымаў, бадай, з лішкам; «міласць хараства і праўды», высока ўзнятая словам творцы, асвяціла і яшчэ асвеціць тысячы ўдзячных сэрцаў і душ нашчадкаў.*

*Хочацца спадзявацца, што прачытанне спадчыны Сваяка, перш-наперш ягоных «запісак», чакае новых выдаўцоў і даследчыкаў — слова любові мусіла б пашырацца з больш глыбокім пачуццём і тэмпераментам, ісці ў свет густоўна аздобленым і выразным.*

*Гэтая публікацыя ёсць спробай газеты «Белавежская пушча» пакласці сціплую даніну ў вянок пашаны святара і паэта, грамадзяніна і патрыёта, яшчэ адна «ўзнагарода вялікая», творцу, які высока шанаваў свой народ, марыў пра ідэалы, любіў і ўслаўляў родную прыроду — «святыню Бога Жывога».* **V.D.**



Рэшткі храма ў Нясвіжскім раёне. Сакавік, 2000.
Фота: Валеры Дранчук (АрСтудыя «Краявід»)



# Неэкалагічная *зачыстка*

*25 сакавіка, паводле сведчання аўтара, беларусаў прыбіралі як смецце, з той розніцай, што рабілі гэта дэманструючы сілу і бронетэхніку*

Шырокі міжнародны рэзананс сустрэла ўчыненае ўладамі 25 сакавіка гвалтоўнае затрыманне 30 журналістаў розных выданняў падчас акцыі святкавання ***Дня Волі*** ў Мінску.

Сярод арыштаваных быў і галоўны рэдактар газеты «Белавежская пушча» ***Валеры Дранчук.*** Шматлікія чытачы нашага выдання даведаліся пра гэта з аператыўнай прэсавай інфармацыі (пераважна недзяржаўнай), аднак цікавяцца падрабязнасцямі. Рэдакцыя мае некалькі тэлефанаванняў з прапановай расказаць пра той Дзень, які стаў «Днём зняволення», самога відавочцу і пацярпелага. З удзячнасцю прымаем чытацкую прапанову, бо добра ўсведамляем: забарона вулічнай дэмакратыі, прыніжэнне і занядбанне нацыянальнай ідэнтыфікацыі беларусаў у Беларусі, вывад баявой тэхнікі на вуліцы сталічнага горада, напусканне страху на жыхароў, знявага стандартаў свабоды слова ёсць праявамі фашысцкае дыктатуры. Хіба можна ў такім разе звязваць ідэалы прыродалюбнасці, якія адстойвае наша выданне, з перспектывай краіны? ***Можна, калі гэтую перспектыву змяніць.***

Мінулы нумар нашага выдання ўжо быў амаль на друкарскім варштаце і я, галоўны рэдактар, з нецярпеннем чакаў яго выхаду (запланаваным на панядзелак, па выходных). А ў суботу, 25 сакавіка, адбылося непрадбачанае — на плошчы Якуба Коласа беларускай сталіцы ў 11 гадзін 20 мінут мяне схапілі і на рукі начапілі кайданкі: гэта азначала, што я арыштаваны. Аніякіх тлумачэнняў ніхто мне не даў, затрыманне, мяркуючы па сродках аперацыі і жорсткасці, якія прымяняліся, пагражала расцягнуцца на суткі ці болей. Пра гэта падумалася ўжо тады, калі не адну сотню людзей прывезлі ў закрытую зону пад аховай людзей у шаломах. Падумалася з хваляваннем — выхад газеты можа затрымацца: аўтарскае выданне таму і аўтарскае, што галоўны рэдактар выконвае ўсе функцыі, уласцівыя цэлай рэдакцыі. І мой арышт азначаў у такім выпадку перакрыты шлях да чытача.

Аднак праз колькі гадзін я быў на волі і зноў, як і раніцай, на поўныя грудзі ўдыхнуў вясновае паветра. Так, гэта быў глыток волі, але ўжо не той, зусім не той, каб назваць гэты глыток святочным.

25 сакавіка ***я ішоў на плошчу Якуба Коласа,*** бо не мог не пайсці, не выказаць сваю павагу да гісторыі Беларусі і дня, які сімвалізуе пакутлівы шлях вяртання беларускай дзяржаўнасці ў свае межы.

***Я ішоў на плошчу Якуба Коласа,*** бо верыў і веру ў незалежную свабодную краіну Беларусь, дзе яе жыхарам гарантаваны спрыяльныя ўмовы жыцця, дзе беларус пачувае сябе паўнапраўным і вольным у сваёй нацыянальнай выразнасці і годнасці.

***Я ішоў на плошчу Якуба Коласа,*** каб у дзень абвяшчэння дэмакратычных каштоўнасцяў і нацыянальна-духоўных ідэалаў засведчыць сваю поўную грамадзянскую прыхільнасць да дзейнага адстойвання гэтых каштоўнасцяў і гэтых ідэалаў, якімі трэба даражыць дзяржаве, у тым ліку нашымі лясамі, азёрамі, рэкамі, нашымі краявідамі, біялагічнымі багаццямі, нашымі нетрамі.



Праспект Скарыны, 25 сакавіка 2000. Кадр з засвечанай фотаплёнкі.



# Б*удзьце багаслаўёныя вусны, што прамаўляюць па-беларуску*

V.D. Фотаплакат

***Я ішоў на плошчу Якуба Коласа*** і думаў пра тое, што сёння ўлада нас падзяліла — беларусаў сярод беларусаў: на колерах сцяга, на гербавых знаках, на канфесійна-рэлігійнай прыхільнасці, на геаграфічнай заходне-усходняй разлегласці, на расійскім чынніку, на польскім, на чачэнскім, на сербска-харвацкім…

***Я ішоў на плошчу Якуба Коласа*** без аніякага страху і небяспекі, бо ведаў заўжды: гэта мой горад, мая сталіца, і свята, якога не прызнала сумніўная ўлада (з пратэрмінаванымі паўнамоцтвамі), не можа быць выкраслена з майго сэрца; я ішоў са святочным прыўзнятым настроем, падобна як шмат калі ішоў у храм — з верай у добрае, лепшае і святое.

***Я ішоў на плошчу Якуба Коласа*** з імем Чалавека-творцы, нацыянальнага выказніка, народнага песняра і земляка, чые запаветы-малітвы заўжды прыўзнімалі маральны дух беларусаў: «Мой родны кут, як ты мне мілы…»; «Няхай агонь і жар пакуты Навекі спаліць здзек той люты, Які спрадвеку там пануе Над тым, хто родны скарб шануе…».

***Я ішоў на плошчу Якуба Коласа,*** бо на душы запёкся акурат жа «здзек той люты» — з нашае мовы, з нашых дат і сімвалаў, з нашых святыняў і скарбаў, дзякуючы якім мы толькі і можам людзьмі-беларусамі звацца.

Нарэшце, ***я ішоў на плошчу Якуба Коласа*** як журналіст і выдавец, якому неабыякавы лёс краіны, гэты Дзень і будучыня Айчыны.

Калі выйшаў на праспект Скарыны, вачам адкрылася жудасная панарама: акупацыйна-вайсковы антураж гарадскіх краявідаў выразніўся пад ранішнім сонцам бляскам нагнаных бронемашын, мноствам «аўтазакаў», нацкаваным выглядам сабак. І паўсюль — шэра-плямісты колер уніформы, на які дагэтуль асабліва не зважаў: Свята 25 сакавіка занадта чыстае і светлае для абазнаных беларусаў, каб лёгка забыцца на гэты колер, на гэты шэра-плямісты бруд.

На плошчы, куды я прыйшоў, было ўжо багата людзей, асабліва журналістаў. Голас праз мегафон раз за разам паўтараў ультыматыўнае патрабаванне разысціся з пагрозай разгону. Напружанне нарастала з кожнай секундай. Сям-там пачаліся затрыманні — з заломваннем рук, выкарыстаннем дубінак і грубай фізічнай сілы. Аперацыя масавага хапуна і жорсткай зачысткі хутка накрыла ўсю плошчу. Задумлівы каменны пясняр, гледзячы са свайго ўвекавечанага падвышку, здавалася, па-філасофску ўсё фіксаваў і не быў адсутным. На ягоных вачах беларусаў прыбіралі як банавае шалупінне, як смецце, з той хіба розніцай, што рабілі гэта ваенізаванымі сродкамі, спланавана, бронетэхнічна. З той розніцай, што ўчынены антыпраўны гвалт супраць людзей сваёй краіны. З той розніцай, што зганьбавана Беларусь перад светам, абніжана мараль цэлай краіны. З той розніцай, што сапраўднае смецце засталося.

Я апынуўся ў гушчыні падзеі і сведчу: да мяне, як і іншых, была ўжыта грубая фізічная сіла, сярод затрыманых былі састарэлыя людзі, падлеткі; нягледзячы на патрабаванне салдаты не адказвалі на пытанні арыштаваных, у тым ліку журналістаў.

Усім, што адбылося са мной, я абражаны не больш, чым парушэннем канстытуцыйных правоў астатніх дэманстрантаў, хто прыйшоў гэтым Днем на плошчу; рэч зусім і не толькі ў стаўленні да гарантаваных стандартаў свабоды прэсы, якое ў рэшце рэшт з пэўнай доляй крытычнасці прызнала афіцыйная прапаганда як недастаткова ўважанае, а ў іншым: правячы рэжым нахабна эксперыментуе з беларускім лёсам — Дзень Волі быццам сімвалічна скінуў маску з аблічча акупацыі і яскрава нагадаў пра падзеі ў Празе і Будапешце, Тбілісі і Вільні. Там пралілася кроў…

**PS.** Я абавязаны быў вярнуцца да падзей 25 сакавіка ў Мінску таму, што цалкам прыналежны да гэтага дня — я атрымаў сапраўдны ўрок Волі. Урок вельмі важны для ўсіх нас: беларусам, насуперак нягодам і злачынствам, наканавана жыць у еўрапейскім дэмакратычным гаспадарстве. І Беларусь, дзякуючы дэмакратычным каштоўнасцям, здолее захаваць духоўнасць, адметнасць, свой навакольны свет і прыродны скарб.

**Валеры Дранчук**

# Піла-Вальшчыкі на прасторах сталіцы

*Зачыстка так званых «небяспечных» дрэўператварылася ў Мінску ў бязлітаснае вынішчэнне зялёнага шчыта горада*



***Красавік 2000.***

**Горад Мінск, як і год і два таму, зноў у паваленых дрэвах. Ідзе масавае вынішчэнне старых, лепш сказаць — вялікаўзроставых зялёных насаджэнняў, якія большасцю ў камлі нагадваюць класічную калону, а крона сягае вышыняў пяці-сяміпавярховага дома. Гэта дрэвы-памяткі, адзнакі матэрыялізаванага часу, сведкі-рэліквіі. Яны падаюць пад ударамі механізаванай гарадской гаспадаркі, якая ўладна ставіць кропку ў іх лёсе.**



Нарэзалі дроў... Цяпер краявід, заспеты рэйдам газеты ў двары па вуліцы Пуліхава, адкрывае вачам бесперашкодную і бяспечную перспектыву (?).

***«Нераўнадушныя жыхары звярталі ўвагу на здаровыя асяродкі камлёў і справядліва шукалі рады, пыталіся, хто даў дазвол чыніць такі безлітасны прысуд дрэвам».***

«Белавежская пушча», №1(10), 1998

Бадай, не было б вялікай скрухі, калі б паступова, з году ў год, прыбіраліся насамрэч састарэлыя, мала чаго вартыя старадрэвіны, а на іх месца падсаджваліся маладыя: дзе было адно — там два або тры.

Дык не! З году ў год чыніцца відавочнае варварства, «лёгкім» горада наносіцца велізарны ўрон і шкода. Пад енк бензапілаў падаюць моцныя, гадамі дагледжаныя дрэвы, якія ствараюць апроч ачышчальнага, выдатны рэкрэацыйна-эстэтычны фон і  маглі б служыць жыхарам сталіцы яшчэ не адзін дзесятак гадоў.

Аўтар гэтага каментару свядома ўнікае паддацца эмацыйным ацэнкам, каб тым самым не звесці размову да тыпавага сюжэту «грамадскага шкадавання» як звычайнага на думку піла-вальшчыкаў.

Гэтая публікацыя — ПРАТЭСТ, канстатацыя загадзя спланаванай гаспадарча-камерцыйнай дзейнасці гарадскіх службаў ва ўмовах выжывання і эканамічнага ўпадку. Рэдакцыя ўзяла на сябе ролю грамадскага эксперта, з удзелам спецыялістаў і актыву газеты правяла аднадзённы рэйд і мае поўнае права зрабіць менавіта такую выснову.

Здзіўляе пазіцыя гарадскога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Гэтая так бы мовіць прыродаахоўная інстанцыя каторую вясну не заўважае знішчэння зялёнага шчыта на тэрыторыі падкантрольнай сталіцы. Яе ўмяшанне магло і папярэдзіць, і прыпыніць гвалт, чаго, аднак, не здарылася. Дык ці не змоўніцкая гэта пазіцыя: загадана зверху маўчаць і нічога не бачыць?

## Што кажа псіхолаг

*Антаніна Якжык (Гомель):* --Такое абыходжанне з зялёнымі насаджэннямі ў гарадах, (вядома, не толькі ў Мінску) вельмі яскрава сведчыць пра пэўны сацыяльна-псіхалагічны і маральны стан грамадства ўвогуле. Чалавек перастае ўспрымаць прыроду як жывую, як вялікую каштоўнасць, з якой ён чэрпае сілы, энергію, часам настрой, аптымізм.

Крамы, стадыёны, выставачныя залы, кафэ, рэстараны, кватэра, кухня, аўто — усё  гэта паглынае чалавека, адгароджвае сценамі, прыпячатвае да асфальта-бетону. Яму вечна няма часу, ён прыроду не бачыць з-за пастаяннай спешкі — заспець, патрапіць, дабегчы. Рэдкія хві-ліны, калі жыхары выходзяць у горад, каб паглядзець на прыроду менавіта ў гарадскім асяроддзі — на зеляніну, кветкавыя кампазіцыі, лужкі, утульныя краявіды, высокія дрэвы. І ў Мінску, і ў Гомелі такіх куткоў ды аб'ектаў вельмі шмат, гэта найвыдатная спадчына, якая перахавалася або створана спецыяльнымі службамі.

На жаль, жыццё, абставіны, спажывецкі, піцейны ды іншы сэрвіс схіляюць людзей у іншы бок, пакідаючы менш і менш магчымасцяў для кантактаў з прыродай, з яе багаццем і разна-стайнасцю; адсюль, мяркую, і агрэсіўнае стаўленне да зялёных каштоўнасцяў, у тым ліку дрэў.





Такім дзікунскім чынам навялі эстэтыку ў рэкрэацыйнай нішы па вуліцы Іванаўскай добраўпарадчыкі Партызанскага ЖРЭА. Пад разложыстай кронай гэтага дуба мог размясціцца сама менш дзіцячы садок (глядзі здымак, задні план). Каля яго было ўтульна і зацішна, як у бацькоўскай хаце. Цяпер дуб выглядае бязрукім калекам, а пад кронай выгарае на сонцы трава. Застаецца адкрытым пытанне, навошта было чапаць гэтае велічнае, цудоўна сфармаванае жывое дрэва (на малюнку).

Як патлумачылі ў Міністэрстве прыродных рэсурсаў, у дадзеным выпадку груба парушана не толькі тэхналогія, але і закон: дуб значыцца асабліва каштоўным дрэвам і падобныя дзеянні ў дачыненні да яго неабходна расцэньваць як злачынныя.

Малюнак 1999 года



Фота: Валеры Дранчук

Больш як дзесяць дрэў сярэдняга веку павалена ў досыць бязлюдным месцы непадалёку Свіслачы, сярод іх і некалькі ліпаў. Чытачы могуць таксама палюбавацца на абголеныя камлі пакінутых дрэў. Рэйд газеты засведчыў: зрэзы на камлях не выдавалі, што дрэвы спарахнелі альбо пашкоджаныя. Усё наадварот.

Гэтая таполя пірамідальная, бадай, не мела сабе роўных ні ў бліжэйшым, ні ў аддаленым наваколлі — тоўсты зухаваты камель ўзносіўся строма ў неба, крона сягала за 30 метраў. Адметнасць, эстэтыка дрэва ўражвала і была відавочнай. Аднак гаспадарнікі не пыталіся рады і, як кажуць, адным махам «абясшкодзілі» прылеглую тэрыторыю. Аргумент не свежы: засцерагчы жыхароў ад магчымага павалу.





**Рэйд рэдакцыі выявіў:**

выразаліся пераважна моцныя ўстойлівыя дрэвы, крытэрыямі «састарэласці» якіх былі хутчэй кубаметры і вышыня, а не ступень іхняй пагрозы;

работы праводзіліся без абавязковай папярэдняй ўзгодненасці з шэрагам іншых «зялёных» службаў, а таксама без адпаведнага ліцэнзійнага дазволу;

у раёне вуліцы Іванаўскай брыгадай ЖРЭА моцна пашкоджаны рэліктавы дуб, абрэзка якога выглядае дзікунскім выклікам цемрашалаў і доўгія гады можа прыдацца як узор варварскага стаўлення да зялёных каштоўнасцяў з боку дзяржавы (у тым выпадку, калі гэта не скрытае браканьерства);

на беразе Свіслачы (раён вуліцы Чырвонаармейскай) знішчана некалькі вялікаўзроставых ліпаў без прыкметаў іх патэнцыяльнай пагрозы.

Нават апошняму дурню сёння не прыйдзе ў галаву так агаляць, скальпаваць горад, каб ён ператварыўся ў газавую камеру. Аднак штосьці вельмі падобнае адбываецца ўвачавідкі. Няўжо, думаеш, гэтага не бачыць і не разумее старшыня таго ж камітэта спадар Казлоў? Былі ж і сігналы ў камітэт, і публікацыі ў прэсе, дый сам жа, відаць, без мігалак па горадзе ездзіць, сёе-тое паспявае разгледзець навокал. Чаму ж не санкцыянаваліся папераджальныя захады , не прымаліся аператыўныя дзеянні, не прыцягваліся да адказнасці вінаватыя?

Гэтыя ды іншыя пытанні мы адрасуем Мінгарвыканкаму, а таксама Міністэрству прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Шаноўнае службовае спадарства! Паглядзіце на здымкі (змяшчаем далёка не ўсе), пераканайцеся на свае вочы. Аўтарская недзяржаўная газета дае вам такі шанец. У лютым-сакавіку наступнага года вярніцеся да нашай публікацыі-пратэсту. Чытацкая грамадскасць чакае адказу і патрабуе канкрэтных рашэнняў. Страчана многа, але каб не страціць яшчэ больш. ■

## Якуб Колас

### У летні адпачынак

На століку маім ляжаць паперы,
Чарніліца, як мачыха, стаіць…
А мне так хочацца зірнуць за дзверы,
На двор пайсці ды неба даль праверыць,
Агледзець хмар каралавую ніць.

Люблю я іх, люблю іх узнікненне
І вольны рух па сонечным шляху,
Іх шпаркі рост, купчастае адзенне,
Люблю глядзець, як неба сутарэнне
Узносіць іх кудлатую страху.

Чарніліца мая глядзіць з дакорам
І думае, напэўна: «Ох, гультай!»
А я тады адказваю з пакорай:
«Я толькі пакурыць, вярнуся скора,
Хвіліначку, галубка, пачакай!»

І я за дзверы шусь! — і я на волі.
Такі табе навокала прастор!
Кучматы лес, утульны луг і поле…
Гляджу, што дзеецца ў блакітным доле,
І бачу — хмара ціснецца на бор.

Іду ў лясок сачыць за хмарай гэтай.
Між сосен дзвюх калышацца гамак.
І чую я — гром глуха грымнуў дзе-та.
Я ў гамаку, — п'ю чары, слодыч лета,
Чарніліца ж мне кажа там: — Лайдак!

1939



**Аркадзь Астаповіч.**
Лета.
(Аутапартрэт ?)
1926.
Туш.
12,5х25

## Фёдар Салагуб

1863-1927
Расія

* * *

Пакрыты бросняй вязкай
Стары пустэльны стаў, —
Здаецца, час настаў
Увасаблення казкі.

Русалка прыплыве,
Танклявая, блядая,
І, лёгшы на траве,
Самотна заспявае,

Дастане з кос каснік.
На дне віра глыбокім
Зіркне вялізным вокам
Раўнівы вадзянік…

Ды ціха дрэмле бросня,
Бязгучна віснe мгла, —
Не так бо гэта проста —
Каб казка ажыла…

*Пераклад Івана Івашкі*

Фота: Валеры Дранчук (АрСтудыя «Краявід»)



## Леапольд Стаф

(1878-1957)
Польшча

### Раска

*Яну Парандоўскаму*

У старым закінутым парку
З сажалкай, дрэмнай ад раскі,
Быццам накрытай зялёнай аўчынкай,
Я стаяў ля вады і думаў:
Гэты стаў быў калісьці празрысты,
Не мяшала б яго пачысціць.
Падняў я прыдатны дубчык
І сцягваць пачаў ім раску,
Гарнуць аўчынку да сцёку.

За гэтым няхітрым заняткам
Заспеў мяне пан філосаф —
Напружана ўдумны выгляд —
І так мне гаворыць паважна
З усмешкай і лёгкім дакорам:
«У кожным імгненні вечнасць.
Жыццё прабягае так хутка.
І процьма сур'ёзных спраў…
Як можна так бавіць свой час?»

Я быў прысаромлены трохі
І цэлы дзень разважаў
Пра смерць і жыццё,
Пра вучэнне Сакрата,
Пра неўміручасць душы,
Пра піраміды, егіпецкае калоссе,
Пра рымскі форум і месячны бляск,
Пра мамантаў і Эйфелеву вежу…
Але да ісціны не прыйшоў.

Калі я вярнуўся назаўтра
На тое ж самае месца,
Я ўбачыў над тым жа ставом,
Накрытым аўчынкаю раскі,
Філосафа з добрым, шчаслівым тварам,
Які няспешна
Дубчыкам, што я пакінуў,
Зграбаў зялёную раску
Бліжэй да сцёку.
Навокал нягучна шумелі дрэвы,
Ў лістоце спявалі птушкі.

*Пераклад В.Дранчука*



***Анталогія*** *ў перакладзе з грэцкае мовы значыць букет кветак. Старажытныя грэкі так называлі зборнікі выбраных твораў паэзіі*



## Валеры Дранчук

### Як многа…

Як многа развітальнага ў нашых
Буднях, у нашым жыцці:
Развітанне з калодзежам, з ветракамі,
Балотамі,
Лесам, ракой,
Салаўінымі гнёздамі, хутарамі,
Развітанне з дарогамі, дрэвамі,
Краявідамі,
Развітанне з радзімай,
Матчынай мовай.

На беразе Нёмана больш
Легкавушкі, на якіх з'язджаюцца
Дэграданты з прыхопленай
Закуссю і блатным жаргонам.

У лесе ўжо не пачуеш
Званочка каровы з бліжэйшага хутара,
Там зранку да вечара
Енчыць бензапіла і выюць
Тралёвачныя ўсюдыходы.

## Зянон Пазьняк

### Вобраз роднай зямлі

Паўдзённая цішыня,
Хвойны водар смалы і жытнёвых палеткаў.
Чую колы рыпяць на далёкай дарозе.
Чую гукі ў гары.
То на хорах касьцельных іграюць арганы
І пяецца малітва святая,
І біздонная сінь — незямны акіян,
І аблокі плывуць над палямі.

1984

## Мар'ян Дукса

* * *

Не чапайце ваду,
не муціце ваду,
на душу не бярыце
яшчэ адзін грэх.
Вы ж наклікалі зноў,
разбудзілі бяду —
каламутнае дно
усплывае наверх.

Колькі раз паўтараецца
гэты кашмар,
гэты вэрхал здараецца
не ўпершыню:
ажываe ў галовах
затлумлены дар —
устрасаць-варушыць
і крушыць глыбіню.

Там, дзе плаваў разважна
нябесны спакой,
па-мядзведжы спрабуюць
ныраць і хадзіць.
размяшаную твань
для «карысці людской»
абяцаюць праз сітачку
зноў працадзіць.

Ды чамусьці не цэдзіцца
чорнае тло,
не жадае асесці
тарфянік руды.
Людзі добрыя,
столькі ўжо дна ўсплыло—
паспрабуй дажывi
да люстранай вады!

# Лупцуй *«зялёных»* або Хто на чытаў «мафіёзны» артыкул

*Абарона навакольнага асяроддзя ў публікацыі «БГ» выглядае прышэсцем рабаўнікоў з сейфавымі адмычкамі*

***На зямлі становіцца ўсё гарачэй. Глабальнае пацяпленне грозіцца ўзрушыць прыродную раўнавагу. Антарктыда і Арктыка растануць, узровень вады адразу падымецца, паўсвету пойдзе пад ваду, а на рэштках запануе пустэча. Многія палітыкі даўно знайшлі вінаватага ў гэтым няшчасці. Капіталізм, свабодны рынак, вялікі бізнес, прага прыбыткаў — вось яны, магільшчыкі нашай планеты,*** — такі запеў падае штотыднёвік «Белорусская газета» ў артыкуле аглядальніка Яраслава Раманчука ***«Сусветны патоп: «зялёная» дыверсія».*** Тут жа й даволі красамоўны падзагаловак: «Яны прыйшлі па нашыя грошы». «Яны» — гэта значыць, «зялёныя», экалагісты. Але хто ж тады «мы»? «Белорусская газета», аўтар-аглядальнік, ці, мо, шараговы падаткаплацельшчык, каго сярод белага дня рабуюць прагавітыя «дыверсанты»?

Яшчэ колькі цытатаў з Яраслава Раманчука.

***«Ці нагэтулькі ўжо апраўданыя страхі «зялёных»; чаму палітыкам і грамадскім арганізацыям па абароне навакольнага асяроддзя выгадна раздуваць істэрыю пра заўчасны канец свету ад пацяплення, смецця, кіслотных дажджоў ды іншых спраўкаваных чалавекам катаклізмаў?»***

На гэтыя пытанні і спрабуе адказаць аглядальнік «Белорусскай газеты»:

***«Многія вучоныя-кліматолагі... дапускаюць вялікія спрошчванні і ўмоўнасці, выбудоўваючы кліматычныя мадэлі. Потым зацятыя «зялёныя» вырываюць асобныя часткі даследванняў, ігнаруючы фактaлагічны кантэкст, і б'юць у званы пра чарговую спробу знішчыць Зямлю.***

***У большасці выпадкаў стрэлачнікі адны і тыя ж: бізнес і рынкавая сістэма ў цэлым. Пры адсутнасці адназначна доказаных прычынна-выніковых сувязяў у кліматалогіі палітыкі спяшаюцца рабіць высновы пра глабальнае пацяпленне, хуткі канец свету і ўходанне прыродных рэсурсаў. Тут жа прымаюцца палітычныя рашэнні на нацыянальным і міжнародным узроўні, якія абмяжоўваюць эканамічную свабоду і выцясняюць з рынку малы і сярэдні бізнес. Людзей, якія патрабуюць цвёрдых доказаў, абвяшчаюць ворагамі чалавецтва, служкамі залатога цяльца. Дайшло да абструкцыі, якую ўчынілі прыхільнікі глабальнага пацяплення знакамітаму амерыканскаму вучонаму Фрэдэрыку Сайнтсу, першаму прэзідэнту Нацыянальнай акадэміі навук, за тое, што ён... падпісаў петыцыю супраць тэорыі парніковага эфекта».***

***«Аналіз статыстычных дадзеных за апошнія 50 гадоў сведчыць, што цеплавы эффект вуглякіслага газа быў перабольшаны. Гэта значыць, увесь шум, падняты «зялёнымі» і іх палітычнымі хаўруснікамі, мае іншыя мэты — выбіць грошы з падаткаплацельшчыкаў пад надзвычай спрэчныя праекты, умяшацца ў працэс вытворчасці тавараў і паслуг, сказіць інфармацыйнае поле...***

***Практычна ніхто з вучоных не пярэчыць, што клімат на Зямлі за апошнія 100 гадоў стаў цяплейшы, што прамысловыя эмісійныя газы ёсць адной з галоўных прычын змяненняў тэмпературы на працягу апошніх 50 гадоў. Ключавое пытанне — якімі тэмпамі будзе адбывацца пацяпленне ў будучыні, ці здольная дзяржава адчувальна паўплываць на гэтыя працэсы.***



***«Зялёныя» любяць вытлумачваць усе незвычайныя кліматычныя з'явы дзейнасцю чалавека. Але анамальныя з'явы надвор'я — гэта правіла, а не выключэнне. Кліматолаг Р. Болінг гаворыць, што кожны дзень можна знайсці нейкую з'яву, якая аказваецца «самай благой» за апошнія 100 гадоў.***

***А факты гавораць самі за сябе: з 1945 года тэмпературныя ваганні ў сусветным маштабе сталі значна меншыя; не было заўважана павелічэння дзённых тэмпературных ваганняў; колькасць зарэгістраваных рэкордна нізкіх і высокіх тэмператур не стала большай».***

Далей аўтар «Белорусскай газеты» падводзіць чытача да самага, бадай, галоўнага.

***«Пад эгідай ААН,*** — піша ён, — ***з удзелам развітных краінаў і краінаў, якія развіваюцца, прымаецца Кіёцкі пратакол. Нягледзячы на навуковыя факты, удзельнікі сустрэчы зыходзяць з кампутарнай мадэлі, згодна з якой тэмпература паветра да 2100 года падвысіцца на 20 С. Каб гэтага ўнікнуць, палітыкі прапануюць значна скараціць выкіды прамысловых газаў. ЗША выкідваюць у атмасферу газаў больш за ўсіх, але яны і выпрацоўваюць больш за іншых сусветнага ВВП. Значыць, трэба замарудзіць дынаміку развіцця эканомікі ЗША?»***

Аднак, — не падумайце! — аўтара артыкула хвалюе лёс бедных краінаў, дзе экалагічныя стандарты тэхналагічнага абсталявання значна паніжаныя.

***«Уявіце на хвіліну,*** — даводзіць Яраслаў Раманчук, — ***што будзе з вытворчым сектарам Беларусі, калі яго заабавязуюць працаваць паводле гэтых стандартаў*** (маюцца на ўвазе патрабаванні Пратакола — *рэд.*)? ***Колькасць беспрацоўных у краіне павялічыцца да 60%, заводы спыняцца, а ўсіх рэсурсаў краіны хопіць, каб купіць колькі дзесяткаў тэхналагічных ліній, якія адпавядаюць тым самым стандартам. А што будзе, калі жорсткія экалагічныя нормы ўвесці ў міжнароднае права, калі выкананне зрабіць абавязковым пры ўступленні ў ЕС, іншыя эканамічныя саюзы?..»***

Дый, зрэшты, усе захады па ўтаймаванні кліматычных парухаў мала што значаць, падводзіць да высновы аўтар артыкула. Чалавецтва, маўляў, як бы ні старалася, ***«практычна нічога не выйграе. Затое... Будзе арганізавана шмат канферэнцый, прынята на працу мноства спецыялістаў-эколагаў, выдадзена дзесяткі дзяржаўных грантаў.»***

Цытуем, аднак, далей:

***«... пашырацца паўнамоцтвы існуючых кантрольных органаў альбо будзе створана новая «зялёная» міліцыя. І ўсё гэта за кошт беднага падаткаплацельшчыка. Ёсць у гэтай гульні і свае пераможцы: бюджэт 12 самых вялікіх арганізацый, якія спецыялізуюцца на абароне навакольнага асяроддзя ў ЗША, перавысіў $700 млн. А на рынку працуюць яшчэ больш за 500 структураў, якія таксама за плугам не ходзяць. Тым часам, агульны бюджэт «зялёных» арганізацый свету ацэньваецца прыблізна ў $2-2,5 млрд. За такія грошы звыш 6 мільёнаў актывістаў ва ўсім свеце яшчэ і не такога слана з моські зробяць.»***

***«Калі развітныя краіны пачнуць ставіць выдачу сродкаў у залежнасць ад выканання кліматалагічных патрабаванняў паводле Кіёцкага пратакола, іншых стандартаў па абароне навакольнага асяроддзя, то эканамічны рост у пераходных краінах відавочна задоўжыцца. З дапамогай «зялёнай» дубінкі можна лёгка расправіцца з патэнцыйнымі канкурэнтамі.***

***Бедным краінам, улучаючы Беларусь, не варта занадта эмацыянальна рэагаваць на псеўданавуковыя вывады не зусім абазнаных абаронцаў навакольнага асяроддзя».***

***«Захаванне статус-кво - лепшы адказ дзяржавы на патрабаванне «зялёных» умяшацца ў дзейнасць эканамічнай сістэмы...*** — заканчвае аўтар «Белорусскай газеты». ***— Не варта ствараць яшчэ адну, гэты раз «зялёную» касту недатыкальных, таму што яны, як і «чырвоныя», прыйшлі па нашыя грошы».*** ■

## Што ў сейфе аўтара?

### Адказ Яраславу Раманчуку

З'яўленне такога артыкула ўвогуле застаецца рытарычнай загадкай, тым больш у быццам бы незалежнай прэсе. Але пакінем за аўтарам права «памыляцца» альбо рабіць выгляд, што гэта свой погляд, — ёсць відочныя падставы сумнявацца ў «чысціні» напісаных радкоў. Дзіўна, што ні аўтар, ні выданне не пасаромеліся, не пастрымаліся гэта змясціць, дакладней, змясціць у такой падачы, з такім «разуменнем» складанай і вострай праблемы наогул і ў Беларусі — тым больш. Гаворка — паслухайце! — сыходзіць на тое, што нашай дзяржаве не варта эмацыянальна рэагаваць на шум «зялёных», а захаваць статус-кво, гэта значыць, ўсё як ёсць. Хочацца ўскрыкнуць: «Дзе ты жывеш, Яраслаў? Ці думаеш, што гаворыш? Рэагаваць — на што?.. Ты чуеш голас беларускіх «зялёных»? Іх пратэсты, патрабаванні? Або, можа, падпісанне краінай чарговых міжнародных канвенцый аб доступе да экалагічнай інфармацыі і водна-балотных аб'ектах здольнае аслабіць беларускую эканоміку, бо развяжа рукі мясцовым «зялёным дыверсантам»? Дый выраз твой — «не варта эмацыянальна рэагаваць...» — вельмі ўжо нагадвае трагічны красавік-1986 і сумнапамятную рэакцыю камунапартыйных босаў...»

У публікацыі Я.Раманчука цікавыя не аргументы (іх папросту няма), а першнаперш — прырода яе ўзнікнення. Не скінеш з шаляў разваг той факт, што Я.Раманчук — адзін з лідэраў аб'яднанай грамадзянскай партыі. Няўжо і партыя, якая ідзе да ўлады, услед за сваім эканамічным стратэгам збіраецца блакаваць рэкамендацыі вучоных-эколагаў, напрыклад, па экалагізацыі эканомікі, якая на працягу дзесяцігоддзяў пакідае, вобразна кажучы, бульдозерны след на абліччы прыроды, даўно і без меры ўходаючы багацці, якія належаць нашым нашчадкам? Гэтым самым Я.Раманчук быццам падпісвае сабе прысуд як палітыку. Згадваючы амерыканскага вучонага, ён не згадвае ніводнага прыклада айчыннай практыкі. Чаму? Ці не таму, каб запусціць ідэю «захавання статус-кво» не абцяжарваючы масавую свядомасць «лішнімі» дробязямі, інакш ягоны прадукт не будзе адпавядаць належным у гэтым выпадку таварным паказчыкам.

На просьбу рэдакцыі прачытаць артыкул у «БГ» і запярэчыць аўтару адгукнуліся вядомыя прадстаўнікі экалагічнай грамадскасці Беларусі. Змяшчаем іх водгукі. ■

*Міхал Козел, экалагіст (Тураў, нацыянальны парк «Прыпяцкі»):*

Гэта, мяркую, скрайні погляд. Лухта пра так званы парніковы эффект ураўнаважваецца антыэкалагічнай істэрыяй аўтара. І тое, і другое занадта далёкія ад сапраўднага стану рэчаў. Прафесійныя эколагі, а не статысты ад кліматалогіі гавораць пра парушэнні прынцыпа «Ле — Шатэлье — Браўна» ў межах біясферы, у планетарным маштабе... Гэта значыць, што прырода ўжо не настолькі «працаздольная», каб забяспечыць нашу ўстойлівасць. Не варта чакаць «пацяплення або пахаладання», трэба разумець і быць гатовымі да разбуральных прыродных з'яў, якія выкліканы гаспадарчай дзейнасцю чалавека за 150 гадоў. Такіх з'яў, на жаль, не паменее, наадварот — вучоныя прадказваюць іхняе пачашчэнне з усё большай магутнасцю.

Стабільнасці прыродных з'яў не купіш за грошы. Трэба адмовіцца ад благой эканомікі, ад нягодных тэхналогій, застарэлых шкодных вытворчасцяў. Экалагізацыя пастунова авалодвае свядомасцю людзей, і «заказныя» артыкулы наўрад ці здольныя істотна ўплываць на гэты непазбежны працэс. ■

*Аляксей Мікуліч, доктар біялагічных навук,старшыня Грамадскай рэдакцыйнай рады газеты «Белавежская пушча»:*

Што мне хацелася б нагадаць аўтару, калі ён не пасароміўся падацца такім недасведчаным у праблемах навакольнага асяроддзя?

Ставіць пад сумненне рэальнасць

глабальнага пацяплення выглядае як блазнаватая саманадзейнасць, ці, лепш сказаць, правакацыйная блазнаватасць. Паглядзім на сённяшні стан вады Сусветнага акіяна, на тоны смертаносных атрутных рэчываў у Балтыйскім моры, адыходы ці не ўсіх гальванічных прадпрыемстваў у глебах краін былога СССР.

Калі звярнуцца да нашых, мясцовых асаблівасцяў існавання, нагадаю пра тысячы гектараў балот і лугоў, свядома асушаных дзяржавай за народныя грошы, мільёны так званых меліяраваных (а дакладней, сапсаваных) земляў, атручаныя радыянуклідамі і ядахімікатамі адпаведна чвэрць і тры чвэрці ворыўнай глебы і лясных абшараў. А чыноўнікі ад экалогіі пахваляюцца буяннем зеляніны і хараством нашых ландшафтаў і запаведнікаў. І Я.Раманчук цудоўна падстроіўся пад гэтую ж дудку.

Напэўна, калі б артыкул не быў «заказаны», аўтар выбраў бы іншы тон. Так, навукоўцам трэба больш комплексна вывучаць сучасны стан біясферных абшараў, дынаміку узаемаадносін паміж чалавекам і наваколлем, каб максімальна дакладна прагназаваць магчымыя катаклізмы, як прыродныя, так і сацыяльныя. Клопат дзяржавы — праз свае Міністэрствы па надзвычайных сітуацыях заказваць лепшым вучоным адпаведныя праграмы, фінансаваць іх выкананне, каб потым меней траціць на чарговую ліквідацыю ці мінімізацыю паследкаў любых катастроф. Не пераканаў мяне аўтар і тымі глабальнымі выдаткамі, якія траціць ЗША на ахову прыроды. Не нам шкадаваць грошы амерыканскіх падаткаплацельшчыкаў. Я веру актывістам Грынпіс і ўсяму грамадскаму экалагічнаму руху на Зямлі, я не веру чыноўнікам і палітыкам ад экалогіі, якія сапраўды недастаткова абараняюць прыроду ад чалавека і не ахоўваюць прыродныя рэсурсы ад іх жорсткага рабавання і нерацыянальнага спажывання.

Калі вярнуцца да пачатку артыкула, чаго варты сам падзагаловак «Яны прыйшлі па нашы грошы»! Паважаны спадар Раманчук! Менавіта «зялёныя» павінны напомніць Вам, што чалавецтва атрымала чыстую планету не ад сваіх продкаў, але пазычыла яе у сваіх нашчадкаў. І грошы, па якія мы нібыта прыйшлі да вас, яны не вашы. Гэта ж вельмі простая рэч: калі грамадста жыве не за кошт стваральнай чыннасці, а за кошт аднаго спажывання, такое грамадства ніколі не будзе мець будучыні. Якраз эколагі, «зялёныя» прапануюць вяртаць пазычанае, шанаваць чужое не горш за сваё, выхоўваць немаўлят і адукоўваць падлеткаў на духоўнасці і


За колькі дзесяціgoddзяў людзі глыбока змянілі разнастайную панараму жывога свету, зрабілі непазнавальнымі нават самыя ўстойлівыя краявіды.

маральнасці асабістых учынкаў. А тым больш, калі ты сам навучыўся пісаць, чытаць, думаць. І яшчэ адна практычная парада. Калі Вы цалкам не валодаеце станам сучаснай экалагічнай сітуацыі на Беларусі, райцеся з намі, знаходзьце дасведчаных людзей, — мы заўсёды Вам дапаможам. І грошай за гэта ў Вас не папросім.

Дарэчы, яшчэ пра грошы. У нашай дзяржаве ўсё наяўныя і пазанаяўныя грошы размяркоўваюцца толькі чыноўнікамі, без усялякага ўдзелу грамадскасці (пра што, дарэчы, не аднойчы пісала газета «Белавежская пушча»). Тым больш, што прыродаахоўныя фонды зараз, як раней, не існуюць у якасці пазабюджэтных. Праўда, гэта не перашкодзіла некаму прафінансаваць «Азот» і БПСМ менавіта з экалагічнага фонду. Залічыць гэтыя ўстановы ў лік «зялёных» ніяк не магчыма, нават чалавеку з неабмежаванай фантазіяй.

*Святаслаў Валасюк, аспірант, эколаг-менеджэр (Брэст):*

Класнае выданне "Белорусская газета"! Тон артыкулаў грунтоўны, бюргерскі, крыху зверху ўніз — аналітыка. Сумесь ментарскай іроніі і вернападданасці. Паважае газета права сілы, арыентуецца на мэтавую аўдыторыю (тых, што ўхваляюць рашэнні) ды прэтэндуе на званне "властителя дум» новых беларусаў.

Аднак, пра артыкул. Аўтар сумняваецца нібыта ў трох рэчах: існаванні так званага парніковага эфекта, небяспецы антрапагеннага ўплыву на асяроддзе, што павадуецца эканамічнай дзейнасцю чалавека, ды ў шчырасці намераў палітыкаў і дзеячоў «зялёнай» афарбоўкі. Апошніх ён параўноўвае нават з «чырвонымі». Для паўнаты карціны аўтар забыўся ўставіць дзе-небудзь спасылку на пратаколы сіёнскіх мудрацоў і масонскую змову супраць чалавецтва.

Паколькі размова пайшла паводле палітычнай каларыстыкі, пазіцыю Раманчука інакш як «сіняй» не назавеш. (Для тых, хто не ведае: цэтлік «сінія» замацаваўся за ліберальнай і кансерватыўнай часткамі палітычнага спектру, якія грунтуюцца на падтрымцы разнастайных уласнікаў — сацыяльных груп, для якіх найгалоўным паказчыкам эфектыўнасці ёсць адсотак на ўкла-дзены капітал, няважна, адкуль ён, гэты адсотак, бярэцца — з бразільскіх лясоў, нарвежскіх кітоў, з фінансавых спекуляцый на ганконгскай біржы, альбо з арганізацыі валютных паляванняў на запаведных тэрыторыях).

«Глабальнае пацяпленне —міф», кажа Я.Раманчук. І спасылаецца на статыстычную рэтраспектыву тэмператур, якая быццам бы дэманструе паўсюдную стабільнасць апошніх. А той факт, што падобныя назіранні вядуцца толькі крыху болей за сто гадоў ( аўтар валодае дык і ўвогуле дадзенымі з 1945 года, як гэта пазначана ніжэй), чамусьці даверу не ўнушае. Што такое 50 ды нават 100 гадоў для кліматычных і геалагічных працэсаў ва ўмовах, калі эканамічны рост характарызуецца зусім нелінейнай залежнасцю?! Таму спасылкі на дадзеныя эмпірычных даследаванняў, на нашую думку, зусім не з'яўляюцца дастатковымі, каб адназначна абвергнуць ці (будзем паслядоўныя) пацвердзіць тэорыю "парніковага эфекту". Гэтая гісторыя падобная на гісторыю эмпірычных даследванняў рака — сотні груп вучоных вывучаюць уплыў спажывання разнастайных прадуктаў на верагоднасць і развіццё канцэрагенных працэсаў. Раптам нехта прыходзіць да высновы, што, умоўна, кефір шкодны, а грэцкія арэхі карысныя. Можа, гэта сапраўды так, можа і не, але рак існуе аб'ектыўна, незалежна ад таго, што мы пра яго ведаем і, калі налягаць або не на грэцкія арэхі — справа густу і даверу да навукі, дык з кефірам, зыходзячы з элементарнай асцярожнасці, варта пастрымацца — а раптам гэта праўда?

Аўтар слушна ставіць пытанне, "якімі тэмпамі будзе адбывацца пацяпленне ў будучыні і ці здольная дзяржава адчувальна паўплываць на працэсы, што адбываюцца?" Адмыслова для мэтавай аўдыторыі "БГ" адкажам: а няма ведама! Ад вас і вам падобных залежыць — ці доўга яшчэ будзеце жыць на гэтай Зямлі і ці будзеце вы тут апошнімі. Можа яе, бядачкі, хопіць яшчэ на тысячу гадоў "эканамічнага росту", а можа — на тысячу дзён. Вы ж ухваляеце рашэнні (ці, прынамсі, гэтак вам здаецца),— вам і рызыкаваць. Бізнэс — гэта ж рызыка, ці не так, паляўнічыя за адсоткам? Адно пэўна — чысцей, прыгажэй і лепей ад вашага палявання тут не робіцца.

Разважаючы так, як сп. Раманчук, нядоўга прыйсці да высновы, што справай нацыянальнага эканамічнага гонару з'яўляецца выраб якога-кольвек ламачча: хто-небудзь ды купіць. Толькі







вось не купляюць — дбаюць аб прыродзе і сваіх грамадзянах. А мы галосімлямантуем: масонская змова супраць нашай славянскай культуры й дзяржаўнасці! «Культуры» бракадзелаў ды нядбайлаў!

Удумайцеся ў лічбы: на 1998 год укаранілі і сертыфікавалі Сістэму экалагічнага менеджмэнту (СЭМ) паводле міжнароднага стандарту ISO14000 242 прадпрыемствы Тайваня, 80 Малайзіі, 64 Тайланду, 60 Індыі, 40 Бразіліі, 29 Інданэзіі, 21 Філіпінаў, 15 Мексікі, 2 Маўрыкіі (!), 1 Перу. Вось вам "трэці свет", спадары "сінія". Лепш сябе пашкадуйце, бо ў Беларусі нічога падобнага няма. А ISO14000— гэта даволі "дарагі" і жорсткі стандарт, які практычна выключае шкоднае ўздзеянне прадпрыемства на навакольнае асяроддзе. І ён зусім неабавязковы — ніхто іх, гаротных, не прымушаў. Проста праэкалагічныя мерапрыемствы прыносяць на рынку канкурэнтную перавагу і настройваюць прадпрыемства на максімум эфектыўнасці — вось чаго не разумеюць дамарослыя паляўнічыя за адсоткам, якія вучыліся рынкавай эканоміцы па карытурах у "Праўдзе". У будучыню ўсё цяжэй рухацца на неэкалагічным транспартце. Там, дзе людзі зразумелі, што рынак — гэта стыхія, супярэчная дэмакратыі, калі не паставіць яго пад жорсткі публічны кантроль, што грамадства спажывання павінна сысці ў нябыт, што менавіта чалавек як асоба ёсць мэтай кожнага грамадства, а як асоба ён можа існаваць толькі ў гармоніі з Асяроддзем, там "сінія" альбо церпяць паразу за паразай, як згаданыя сп. Раманчуком амерыканскія рэспубліканцы, альбо мусяць крыху "пазелянець" ды "пачырванець".


Сёння на Беларусі ніводзін аб'ект, які патэнцыяльна пагражае насельніцтву, не кантралюецца грамадскім сектарам. Я.Раманчук прапануе ўсё захаваць як ёсць...

І, на сканчэнне, адносна каварных намераў і патаемных матываў праэкалагічных актывістаў, якія, па словах сп. Раманчука, "не сеюць і не пашуць". Бярэм сумарны бюджэт сусветнага экалагічнага руху (USD 2,5 млрд., паводле сп. Раманчука) і дзелім на колькасць актывістаў (6 млн., паводле той жа крыніцы), атрымоўваем 417 даляраў на год ці 1 даляр 10 цэнтаў на чалавека ў дзень. Нешта танна Вы нас цэніце, дарагі сп. Раманчук! Лепей параўнайце вашыя "страшэнныя" лічбы з гадавым абаротам ну, напрыклад Royal Dutch Shell ці агульным коштам маёмасці сп. Б. Гейтса.

*Аляксандр Рачэўскі, начальнік аддзела міжнароднага супрацоўніцтва і навукі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя:*

Рух «зялёных», як і грамадскі сектар наогул, дзе вызнаюцца першнаперш здароўе нацыі, ахова навакольнага асяроддзя, ёсць найбольш здаровымі рухамі ў Беларусі. Мы апіраліся і апіраемся на іх, бачым тут перспектыву ўзаемадачыненняў. Напрыклад, праблему інфармаванасці насельніцтва ў пытаннях якасці навакольных асяродкаў збіраемся вырашаць, кантактуючы з «зялёнымі».

Што да канвенцый, было б вялікай памылкай лічыць іх справай адно багатых краін. Паглядзіце — Канвенцыю па клімаце сёння падпісалі ўжо 150 дзяржаў! Скажу больш: адну з найскладаных і найцяжэйшых канвенцый. Наўзвоч відаць, што чалавецтва зрабіла вялікі крок у разуменні глабальнай праблемы, бо пастрымаць выкіды хоць бы на ўзроўні 1990 года — рэальная справа ў захаванні клімату Зямлі. Як вядома, 1990 быў годам максімальна высокага развіцця вытворчасці ў Беларусі, таму, абавязаўшыся не перавышаць узроўню выкідаў 1990 года, наша краіна здолее зрабіць надзвычай істотны ўнёсак у агульную справу, і ніхто не збіраецца адмяжоўвацца ад «багатага Захаду», наадварот, ёсць найстойлівая падстава шмат чаго перагледзець у айчыннай гаспадарцы і забяспечыць пераход на прыродазберагальныя рэсурсы , да тэхналогій, якія не будуць спрыяць выкідам.

Тое ж можна сказаць пра азонавую Канвенцыю. Нам трэба ўнесці сваю долю — абмежаваць доступ азонаразбуральных рэчываў у краіну і перайсці да тэхналогій, якія б іх выключалі. Гэта папершае. Па-другое, трэба мадэрнізаваць сельскагаспадарчы, прамысловы, пажарны сектар і гэтым самым наблізіцца да засцерагальных стандартаў.

У рэшце рэшт, што такое канвенцыя? Гэта фармаванне агульначалавечага планетарнага погляду на вострыя праблемы, якія паўстаюць на шляху цывілізацыі. Таму, у звязку з гэтым, прыніжаць ролю канвенцый, мякка кажучы, неразумна. Тут я катэгарычна не падзяляю «занепакоенасць» Я.Раманчука, які раіць нам захаваць статус-кво або «становішча без змен».

Безумоўна ж, змены патрэбны. Грамадства чакае ўкладанняў у зберажэнне прыроды і з боку делавога сектара, нованароджанага капіталу. Але гэта зусім не значыць, што мы «прыйшлі» па іхнія грошы. Няхай яны ўкладваюць свае грошы ў прыродаахоўную частку бізнесу. Сёння мы маем тэхналогіі, калі на адзінку прадукцыі трацiцца непамерная колькасць рэсурсаў, а ў навакольнае асяроддзе выкідваецца недаравальна шмат бруду, адходаў. Скажыце, якое тут можа быць статус-кво?

Больш за тое — мы самі гатовыя даваць грошы. Напрыклад, фінансаваць праекты, звязаныя з перапрацоўкай цвёрдых бытавых адходаў. Натуральна, з разлікам на аддачу. Аднак, мне здаецца, наш бізнес яшчэ не ўсвядоміў, у якім доме ён збіраецца жыць далей: у адкрытай, напалову жывой прасторы, альбо — у дагледжанай і ўтульнай абстаноўцы сярод сапраўднай прыроды. Аўтар артыкула ў «БГ» зрабіў публічны выбар, на мой погляд, горшага варыянта.

## Кола

### Хто выцірае з падручнікаў слова «прырода»?

Мяне здзіўляе і засмучае, чаму з падручнікаў амаль знікла слова «прырода». Замест яго аўтары пішуць скрозь «навакольнае асяроддзе». Калі б гэта не датычыла ўзроўню пачатковых класаў, дзе я працую, — яшчэ паўбяды. А так, рыхтуючы ўрок, мушу знаходзіць жывыя словы, якіх бракуе ў кніжках. Язык не паварочваецца казаць «навакольнае асяроддзе», калі перада мной мае дзеці, — яны ведаюць слова «прырода» і досыць жвава, актыўна ўспрымаюць усё, што звязана менавіта з гэтым глыбокім вялікім паняццем: «родная прырода», «беларуская прырода», «прырода майго краю» і інш.

Я добра разумею тую розніцу, што ёсць паміж гэтымі словамі. Звяртаю, аднак, увагу на тое, што тэрмін «навакольнае асяроддзе» выглядае ў падручніку часам ненатуральна, не да месца, збядняе змест і зніжае эмацыянальнае ўспрыманне карысных ісцін.

**Алена Шнаркевіч,**
***настаўніца пачатковых класаў.***
Сенніца, Мінскі раён

# Зялёны пікет збірае сяброў



## Прыродаахоўная акцыя ў дакументах і сведчаннях

Нягледзячы на сотні грамадскіх экалагічных арганізацый, на Беларусі даўно не чуваць «зялёных» пікетаў. Тым часам гэта адна з найдаступных форм грамадскай рэакцыі на разбурэнне і збядненне прыроды. Гэтай публікацыяй мы хочам звярнуць увагу на «тэхналогію» адстойвання «зялёных» каштоўнасцяў і тую рэальную акалічнасць, што кожны з нас мае гарантаванае законам права замовіць свой грамадзянскі пратэст.




«Зялёны» пікет 14 красавіка 2000. З плошчы Бангалор удзельнікі акцыі перамясціліся на досыць людное скрыжаванне вуліц Максіма Багдановіча і Сурганава. Ахова правапарадку не запярэчыла, а толькі папрасіла ўлётак для «самаасветы».

Фота: Міхал Козел (Тураў)

*Мінскі гарвыканкам*
*жыхара Мінска*
*Дранчука Валерыя Аркадзевіча*

**ЗАЯВА**

Прашу даць дазвол на правядзенне «зялёнага» пікету згодна з наступнымі прапазіцыямі.

Мэтай пікету з'яўляецца актывізацыя грамадскага фактару ў пытаннях аздараўлення навакольнага асяроддзя, захавання нацыянальнай прыроднай спадчыны, выканання Канстытуцыі і норм экалагічнага права ў Рэспубліцы Беларусь.

Мяркуецца збор людзей, якія маюць сваю пазіцыю і гатовыя выказаць свой пратэст па адзначаных пытаннях.

Месцам правядзення замаўляецца Міхайлаўскі сквер.

Дзень і час: 14 красавіка, 16 гадзін - 19 гадзін.

Колькасць удзельнікаў мяркуецца ад 50 да 80 чалавек.

Дранчук Валерый Аркадзевіч
газета «Белавежская пушча»,
галоўны рэдактар

МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ | МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ

№ 92048 от 7.04.2000 г.

**Дранчуку В.А.**
г.Минск, ул.Ивановская, 38-16

В Минском городском исполнительном комитете рассмотрено Ваше заявление о проведении пикетирования.

Согласно Конституции Республики Беларусь, а также в соответствии с Законом Республики Беларусь «О собраниях, митингах, уличных шествиях, демонстрациях и пикетировании», Декретом Президента Республики Беларусь от 9 сентября 1999 года № 36 и решением Мингорисполкома от 17.12.1999г. № 1330 вы вправе провести 14 апреля 2000г. с 16.00 до 19.00 пикетирование на площадке в парке Дружбы народов (в районе пл.Бангалор), без создания помех пешеходному и транспортному движению и общим количеством участников до 80 человек.

Конкретное место проведения мероприятия согласовать с ГУВД Мингорисполкома.

Вместе с тем напоминаем, что соблюдение общественного порядка и действующего законодательства участниками мероприятий осуществляют его организаторы и что за нарушение порядка организации и проведения собраний, митингов, уличных шествий, демонстраций и пикетирования предусмотрена ответственность в соответствии с действующим законодательством.

Зам.председателя исполкома В.В.Чикин

*Мінгарвыканкам (юрыдычны аддзел)*

У звязку з тым, што падчас зялёнага пікету прадугледжана прыбіранне тэрыторыі і пасадка дрэўцаў, арганізатары пікету са згоды і з удзелам спецыялістаў Зеленбуда (аддзел добраўпарадкавання) прапануюць пляцоўку, якая больш стасуецца да адзна-чаных мэтаў, — *сквер на стыку вуліц Ульянаўская і Кастрыч-ніцкая насупраць стадыёна «Дынама» і малдаўскага пасольства, з выглядам на бераг ракі Свіслач.*

Прапануем таксама схему мясцовасці, дзе мяркуецца збор удзельнікаў (да 50 чалавек) і правядзенне акцыі.

В.Дранчук





***Іна Зеніна, супрацоўнік нацыянальнага парка «Прыпяцкі» (Тураў)***

--Мяркую, не варта было сумяшчаць семінар і пікет. Бракавала часу. У выніку часціна ўдзельнікаў семінару сышла на пікет. Я таксама збіралася, наогул лічыла, што ўдзел у пікеце ***супрацоўнікаў*** з запаведнікаў, з аднаго боку, мусіў быць шырока анансаваным і падкрэслена адкрытым. Аднак, з другога боку, упэўнена, што гэта стала б падставай для чарговага ўціску на мяне з боку начальства; мне як нікому вядома, што ў Нацыянальным парку «Прыпяцкі» прафесійныя біёлагі не патрэбны, тут патрэбны паслухмяныя выканаўцы. Я мусіла, такім чынам, выбіраць: паміж месцам пікету і месцам працы.

Дзеля захавання прыроды запаведнікаў трэба выкарыстоўваць розныя метады: і пікетаванне, і вострыя публікацыі ў прэсе, і звароты грамадскіх арганізацый, і выступы вучоных. Гэты шлях без канца, і трэба альбо ісці па ім, калі стаў, альбо сысці наогул.

***Алег Іванавіч, прахожы.***

— Лес — гэта добра. Я вас, хлопцы, падтрымліваю. Выступайце, можа, штонебудзь і дапаможа. Лесу менш і менш, сякуць як кукурузу. Ды які ўжо лес! Такога, як быў гадоў 70 таму, ужо няма. Адна кукуруза…

Яраслаў Пятроўскі (Гродна) і Міхал Козел (Тураў) з плакатам «Аднавіць Прыпяцкі запаведнік! Спыніць высечку лясоў!». Пасярэдзіне плаката перакрэслены Указ прэзідэнта, які ўзаконіў гаспадарчы гвалт у беларускіх нерушах. Насця Неказакава (на здымку справа) трымае плакат, на якім напісана: «Збядненне грамадства паглыбляе экалагічны крызіс».




Падчас пікету пралілася «кроў» запаведнай прыроды — так праілюстраваў свой пратэст супраць гаспадарча-вытворчага ўціску на запаведныя тэрыторыі актывіст грамадскай экалагічнай арганізацыі «Ахоўнікі вясёлкі».

***Сядура Аляксей, 10 клас, Мінск***

--Такіх пікетаў павінна быць больш, да іх будуць падцягвацца новыя і новыя сілы прыродазаступнікаў. Пікет, увогуле, гэта клёва. Замаўляючы пратэст, вучышся канкрэтызаваць пазіцыю, збіраць аднадумцаў, адсочваць праграму дзеянняў. Мяркую, што наступны пікет збярэ сяброў з рэгіёнаў, не адно з Мінска. Такім чынам можна аб'ядноўвацца ў рух і разам планаваць больш маштабныя акцыі.

## Паведамленне для прэсы

2000 год — год асаблівы. Завяршаецца тысячагоддзе. Прыродных каштоўнасцяў значна паменела. Наступнае тысячагоддзе мусіць стаць *тысячагоддзем навакольнага асяроддзя.*

Настае час дзеянняў.Трэба абараняцца і абараняць. Агрэсіўная эканоміка нясе небяспеку, яе развал пагражае знішчэннем багаццяў, бядой і галечай.

Пікет — адна з самых даступных форм прыродаабароннага дзеяння, чалавечай рэакцыі на разбуральнасць сучаснага жыццяладу. Выкарыстанне гэтай нормы права мае надзвычай вялікі патэнцыял у адстойванні жыццёва важных і каштоўных аб'ектаў прыроды і ландшафта, якія ўсё больш і больш зведваюць прыгнёт цывілізацыі.

У Беларусі даўно не чуваць зялёных пікетаў. Гэтая вясна можа стаць пераломнай. Хваля экалагічных пікетаванняў павінна ахапіць усю Беларусь.

*Мы пачынаем* і заклікаем суаўчыннікаў актывізаваць грамадскі фактар у пытаннях аздараўлення навакольнага асяроддзя, захавання нацыянальнай прыроднай спадчыны як гарантыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Увагу прысутных звяртаем на пасіўныя, неадэкватныя і некваліфікаваныя дзеянні дзяржаўных структур прыродаахоўнага накірунку, на парушэнні заканадаўства ў дзейнасці асабліва ахоўных прыродных тэрыторый (нацыянальныя паркі, запаведнікі), на адсутнасць сістэмы інфармавання і доступу насельніцтва да інфармацыі, якая датычыць бяспекі пражывання людзей.

*Сучасны стан і перспектывы развіцця асабліва ахоўных прыродных тэрыторый Беларусі* абмеркавалі ўдзельнікі грамадскага дыялогу, які наладзіла Палескае аддзяленне беларускага цэнтра аховы дзікай прыроды. Выказаць альтэрнатыўны погляд на праблему пажадалі адмыслоўцы-эколагі і экалагісты з Турава, Віцебска, Брэста, Гародні, Мінска. Апошні час, як вядома, павялічыўся гаспадарчы ўціск на запаведныя тэрыторыі, дзе замест навуковапазнавальных усталёўваюцца разбуральныя віды дзейнасці, якія супярэчаць закону Рэспублікі Беларусь Аб асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях і аб'ектах.

Удзельнікі сустрэчы мяркуюць прыйсці на пікет, а ўдзельнікі пікету атрымаюць «пратэставы» нумар газеты «Белавежская пушча», абмяняюцца не толькі думкамі, але і плакатамі, улёткамі экалагічнага зместу, сфатаграфуюцца на памяць.

Мінгарвыканкам у асобе В.Чыкіна не пайшоў насустрач аўтарам зялёнай ініцыятывы і адпрэчыў просьбу правесці пікет у Міхайлаўскім скверы або на беразе ракі Свіслач з элементамі дабрачыннасці — уборкай тэрыторыі і пасадкай дрэў.

Гэта і ёсць ПАЧАТАК. *Зялёны шум-2000 абвяшчаецца.*

# Не шукай ты мяне

***Песня закаханых беларусаў перахоўвае чароўны код-першавобраз роднай зямлі, маці-Айчыны***

***Не шукай ты мяне
каля жытніх палёў,
не шукай, не шукай.
Калі к сэрцу майму
ты дарог не знайшоў,
не шукай, не шукай.
Не кажы ты мне слоў,
што не грэюць цяплом,
не кажы, не кажы.
Калі сэрца тваё
не палае вагнём,
не кажы, не кажы.
Не спявай пад вакном
Ты мне песні сваёй,
не спявай, не спявай.
Калі ў сэрцы не я
буду песняй тваёй,
не спявай, не спявай.
Не шукай ты мяне
у цішы вечароў,
не шукай, не шукай.
Калі к сэрцу майму
ты дарог не знайшоў,
не шукай, не шукай.***

Гэтую песню мы запявалі, помню, акурат калі выплывала жыта. Раней куды ні глянь — усюды расло жыта, гэта цяпер не так. І словы «Не шукай ты мяне каля жытніх палёў» набягалі міжволі, па ходу дзявочых мараў. Наогул гэтая песня лёгка спяваецца на прыволлі, дзе-небудзь на ўлонні — у полі ці лузе, ідучы дарогай-пясчанкай, самнасам або з лепшай сяброўкай…

Успомніла 63-гадовая
***Леаніда Капыльчык, Мінск***

Знайдзіце ў песнях сваю Беларусь!

**У наступным нумары**









# Апошнія коні?

***Фотакадр, якім аўтар засведчыў сыход экалагічна чыстай цяглавой сілы з беларускага краявіду***

Скрушная з'ява, тыповы малюнак: пусцеюць беларускія канюшні, зарастаюць травою сцяжынкі, ўбітыя капытамі. І ўсё больш разбітых дарог у сельскіх ваколіцах, замаркочаных краявідаў, на нівах і агародах усё больш гулу-тарахцення. Менш цішыні і чыстага паветра, — свет паступова і ўпарта пераварочваецца ўверх дном.

Белы конь, якога вы бачыце на здымку, знайшоў прытулак у прыватным хляве, дзе яшчэ гаспадарыць беларуская душа селяніна. Яму, аднаму з апошніх, пашанцавала больш за іншых: калгас, каб не мець клопату, перадаў яго ахвотніку, які і аўсу падкіне, і як след дагледзіць. І ўсё ж… «Раздача» апошніх калгасных коней упарта сведчыць пра сыход экалагічна чыстай цяглавой сілы на аўсяным «паліве» з вясковага краявіду.

Грамадства, аднак, не зважае. Можа, тым часам, сярод мноства праграм па выхаду з крызісу патрэбна і народная праграма па ўратаванні каня?

Фота: Віталь Прошча

Працяг са стар.3

# «...Каб глянуць *на возера* зблізку»

## Звабнае люстэрка

Аднастайна раўнінны беларускі край ужо праз 20-25 вёрстаў ад станцыі Баранавічы Аляксандраўскай чыгункі саступае іншаму краявіду — узгорак змяняецца ўзгоркам, хада набывае ўзвышаны поступ. Наваколле ажыўляецца прыгожымі селішчамі і панскімі сядзібамі, праразаецца шматлікімі рэчкамі, што весела коцяць сваю ваду па дне, вымашчаным тоўстым пластом жвіру ды камянёў. Берагі рэчак ацяняюцца стройнымі радамі алешніку, гаёў і невялікіх лясных зарасцяў, якія паступова, бліжэй да возера, пераходзяць у дрэмны векавы лес, з даўніх-прадаўніх часоў нечапаны рукой чалавека...

Паштовы тракт у гэтым месцы праходзіць зусім побач, на адлегласці лічаных дзесяткаў сажанёў ад берага возера. Яно гэтак звабна блішчыць люстэркам вады скрозь дубовы лес, што хочацца спыніць хаду і падыйсці палюбавацца зблізку чароўным адкрытым відком-малюнкам.

Хвіліна-другая хады скрозь зялёныя шаты дубоў таўшчынёю ў тры абхваты — і ўся вазёрная шыр у форме круглага дыска дыяметрам каля двух вёрстаў, быццам ачэпленая зялёным колцам воднага чароту, разлягаецца перад вачыма турыста.

Чысціня вады ўражвае. Празрыстасці ёй надае і белы пясок прыбярэжнага дна. Сонца пераліўна йграе ў сонных хвалях бела-жаўцянай касы ды наводзіць бляск на люстэрка шырокай воднай разлегласці, асаджанае ў раму дрымучага лесу, што цесна абступіў Свіцязь з усіх бакоў.

## Да Бога з малітвай

Гісторыя возера пачынаецца шырока вядомай сярод мясцовага люду легендай:

«У незапомныя часы, на месцы, дзе

*Там возера Свіцязь, як шыбіна лёду, Ляжыць паміж дрэваў цяністых...*

Гэты баладны радок Адама Міцкевіча прыгадаўся сам сабою.

АрСтудыя «Краявід»

цяпер возера пагойдвае свае светлыя хвалі, стаяў багаты сталічны горад, жыхары якога ўважаліся за самых смелых і багатых, а жанчыны слылі прыгажунямі з прыгажуняў.»

«Аднойчы, калі ўсё мужчынскае насельніцтва адбівала чарговы напад заваёўнікаў, а ў горадзе заставаліся адны жанчыны, ворагі ноччу зайшлі ў горад, рабуючы і ўчыняючы гвалт і забойствы. Свіцязянкі зразумелі сваё становішча і звярнуліся да Бога з малітвай, каб ён наўзамен пакут прыніжэння спаслаў ім хуткую смерць. Навышні пачуў голас шчырай малітвы, зямля завагалася, апусцілася ў бездань, і на месцы былога горада ўтварылася бяздоннае возера, у нетрах якога па сённяшні дзень жывуць гордыя і чыстыя Свіцязянкі; у сонечны поўдзень яны маюць аблічча водных лілеяў ды іншых кветак, а ўначы, калі ўзыдзе месяц і бляск яго ляжа на ціхую роўнядзь вады, пад аховай туману ды месячнага мярэсціва водзяць карагоды ці танчаць; і ліха таму, хто захоча падгледзець гэтую дзею, пацікаваць: «Свіцязянкі заўважаць, завабяць на глыбокае і ўтопяць цікаўнага небараку.»

«Драпежнікі-ліхадзеі, якія напалі на горад, таксама загінулі ў хвалях возера і, па волі Творцы, было ім наканавана ляжаць да Страшнага суда ўскрай вазёрнага вала ў абліччы нямых валуноў ды жвіру, хіба толькі ў буру, калі возера ўзніме сярдзітыя хвалі, выкідваючы на бераг пену, водарасці ды вырваны чаротнік, камяні ажываюць і пачынаюць рухацца, штурхаючы адзін аднаго, шумяць і гугнява-паныла ракочуць.»

Апроч апісанай легенды, людзі расказваюць і вераць у казачныя сілы гэтага возера, распавядаюць, напрыклад, пра тое, што возера не мае дна, злучаецца з іншымі вадабадзямі праз падземныя хады, і значаная рыба, пушчаная ў Свіцязь колькі гадоў таму, была злоўленая ў іншых азёрах, што на дзесяткі вёрстаў ляжаць ад Свіцязі.

Кажуць, што каля вазёрных берагоў няможна капаць зямлю, рыць прыбярэжны вал, секчы тутэйшы лес і наогул трымаць сябе неспакойна — бо інакш вада падымецца і затопіць увесь свет.

Яшчэ распавядаюць, што духі возера караюць тых, хто адважыцца абыйсці яго кругом; кожны, хто рашыцца на такі подзвіг, у рэшце рэшт заблукае і без дапамогі не знойдзе дарогі дамоў.

Наогул возера з незапомных часоў акружана німбам чароўных балад, легенд і паданняў, мае славу казачна-чароўнай, поўнай духаў, русалак, тапельцаў воднай прасторы, якая лечыць і гоіць усіх, хто акунаецца ў яе хвалі, але патрабуе і людскіх ахвяраў, кожны год забіраючы хоць аднаго няшчаснага.

## Мяккая вада

Геалагічныя ды археалагічныя даследванні дна возера і прыбярэжных ваколіц выразна даводзяць, што ўсе гэтыя легенды і прымхі маюць свой грунт і свае падставы, пачатак якіх пазначаны ў дагістарычным часе другой палавіны чацвярцічнай сістэмы.

Фота: Валерый Дранчук







Ліпаў, якія маляваў у далекаватым студэнцкім юнацтве, я не знайшоў, хоць і абыйшоў возера кругом, старанна прыглядаючыся да кожнага дрэва. Можа, не пазнаў, можа...
Акварэль на свіцязянскай вадзе. Верасень, 1973.

Возера Свіцязь ляжыць на высокім пласкагор'і і сягае ўзроўнем вады 257 метраў вышыні ад паверхні мора, сваім малюнкам і абрысамі паўтараючы амаль правільны круг дыяметрам 1650 метраў па лініі з поўдня на поўнач і па лініі «усход — захад» — 1700 метраў.

Калі ад вала берага адддаліцца на 50 метраў, недзе блізка лініі воднага чароту, глыбіня возера ў большасці выпадкаў пакажа 2 метры, далей, паступова павялічваючыся, у паўднёва-заходняй частцы набірае цэлых 15. Пры самым беразе хвалі з нястомнаю ласкай абмываюць шчыльнае кола палявых валуноў, якімі ўсыпана дно, варушаць буйны пясок; далей, па лініі к цэнтру, перавагу бярэ больш дробны гравій, кварцавы белы, цудоўна вымыты хвалямі пясок, а на лініі чароту, дзе глыбіня два метры, дно пакрыта водным імхом і дробнымі водарасцямі, нарэшце, за трысьнягом пачынаюцца вельмі тоўстыя адлогі раслiннага глею і раскі, улетку надзвычай густа парослыя водарасцямі.

Вада ў возеры, адметна чыстая і празрыстая, з вельмі малой колькасцю мінеральных злучэнняў, належыць да разраду так званых «мяккіх водаў», летам награецца каля берагоў да 25 С, прыемная для купання і ў якасці пітной даволі смачная. Вясной і ўвосень празрыстасць яе выключная, хіба што ўлетку, у гарачыя месяцы яна набывае зеленкаваты колер і крыху мутнее з-за мноства мікраскапічнай флоры і фауны, так званага маладаследаванага дагэтуль планктона, які толькі нядаўна звярнуў увагу еўрапейскіх вучоных алголагаў.

Даследуючы геалагічныя адклады дна возера, мы на невялікай глыбіні пасляледавіковых утварэнняў трацічнай і чацвярцічнай сістэмаў натыкаемся на дужа магутныя адлогі крэйдавай сістэмы, якія выходзяць амаль на паверхню зямлі ў форме мяккай пісомай крэйды, у верхніх пластах вельмі беднай на буйныя акамеласці, але перапоўненай мікраскапічнымі арганічнымі рэшткамі, сярод якіх найпершыя шкарлупкі караняножак «Textularia», «Rotalia» і інш. Толькі на больш значнай глыбіні дна, дзе я зрабіў свідравіну, мне ўдалося дастаць колькі жалвакоў крэменю і цудоўна захаваныя асобнікі «Belemnitella mucronata», «Ananchytes ovatus», зубы драпежных рыб ды іншыя акамеласці, тыповыя для верхніх адлога ў крэйдавай сістэмы.

## Грандыёзны правал

У рэшце рэшт, калі ўзяць пад увагу парадак геалагічных утварэнняў наваколля і дна Свіцязі, варта аднесці яго да разраду эразійных азёраў, якія ўтварыліся з хімічнай дзейнасці вады. Вада растварыла паклады белай пісомай крэйды, у выніку ўтварылася пустата пад трацічнымі і чацвярцічнымі адлогамі, трываласць якіх была недастаткова вялікай. Далей адбылося, бадай, ці не самае фантастычнае: яна ж, вада, утварыла грандыёзны правал паверхні зямлі і тым самым дала месца вялікай волміне, якую і запоўніла возера Свіцязь.

Археалагічныя даследванні таксама пераконваюць, што катастрофа здарылася параўнальна не так даўно, калі жыхары краю былі ўжо на пэўнай ступені культуры і валодалі досыць высокай грамадскай арганізацыяй, пра што сведчыць прыбярэжны земляны вал, які акаймоўвае возера з усіх бакоў. Гэты вал быў насыпаны ў той дагістарычны час рукамі мясцовых жыхароў, напалоханых таямніцай здарэння і гатовых адгарадзіць астатнія часткі роднага краю ад чагосьці падобнага і страшнага — праваліцца скрозь зямлю. Калі ўспомніць невялікую колькасць людзей у той далёкі дагістарычны перыяд і веліч работы па ўзвядзенні вала акружнасцю каля 5 вёрстаў ды прыгадаць легенды й паданні вакол возера, якія дайшлі да нас, можна лепш зразумець, якое вялікае ўражанне павінна была зрабіць на жыхароў тая раптоўная праява прыроды — разлітая ў адначассі вадабадзь, якую мы бачым сёння ў форме маляўнічага возера Свіцязь.

Як сведчаць раскопкі ў прыбярэжных лясах, пазней людзі доўга баяліся тут сяліцца і нават знаходзіцца дзе-небудзь блізка. Месца тысячагоддзямі ўважалася за небяспечнае, дзе ў кожную хвіліну можа здарыцца тое, што адбілася ў памяці шматлікіх пакаленняў рода людскога.

## Злачынствы

У гістарычным часе Свіцязь становіцца добра вядомай мясцінай толькі ў другой палавіне васемнаццатага стагоддзя.

Падчас «усеагульнага разгулу на ру-



Сёння дарога побач з возерам нясе яму непамерныя выкіды і чалавечы гвалт. А заўтра ўсё можа змяніцца да лепшага: калі зноў прыгадаць Міцкевіча — «каня супыні ля Плужынскага бору». Будзем разумець гэта так, што дарога паўз возера мусіла б стацца выключна для пешаходаў і аматараў безматорных відаў перамяшчэння.

інах канаючай Рэчы Паспалітай» уладальнікі шматлікіх маёнткаў, размешчаных вакол возера, магнаты Незабытоўскія ладзяць тут балі і вечарынкі з запрашэннем суседзяў у цудоўную па раскошы і месцы размяшчэння сваю сядзібу пад назвай «Пясчанка», што красавалася на паўночна-усходнім беразе возера. У гасцінным доме Незабытоўскіх працягваліся імпрэзы да 1831 года: за ўдзел Незабытоўскага ў паўстанні сядзіба ў Пясчанцы была знішчана, а ўся зямля канфіскавана ў казну (гаворка ідзе пра шляхецкае паўстанне на Беларусі і Літве за адраджэнне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года і пакаранне за антырасійскія настроі і падтрымку паўстання -- ***увага рэдакцыі*** ***).***

У 1864 годзе царскі ўрад адзначыў «асобыя заслугі» генерала Ахлопкава-- падарыў Пясчанку разам з возерам Свіцязь удаве нябожчыка, якая, пасяліўшыся ў суседняга памешчыка Канстанціна Войны, прыканцы жыцця прадала яму ўсю дараваную маёмасць.

Нарэшце Пясчанку прыўлашчвае нехта Пушкарскі, мешчанін з Міра Навагрудскага павета, шматгадовы былы слугар Найсвяцейшага Міхаіла, Архібіскупа Мінскага.

Пушкарскі скарыстаў на сямейных сварках наследнікаў Войны, дамогся выкупіць слынны маёнтак амаль за бесцань, паклаўшы 7000 рублёў, і, ведаючы, што навакольны люд з найвялікшай пашанай ставіцца да гэтай мясцовасці, даражыць ёю, уважаючы возера за найкаштоўную пацерку роднага краю, пайшоў на хітрыку — жадаючы прымусіць памешчыкаў выкупіць у яго возера за небывала высокую суму — 50000 рублёў, пачаў няшчадна знішчаць тое, што сведчыць пра вялікае мінулае і ёсць аздобай Пясчанкі; так пад сякерай Пушкарскага ўпалі векавыя алеі клёнаў, дубоў і ясеняў, што вялі да сядзібы з усіх навакольных дарог, быў скончаны векавы парк над возерам з грандыёзнымі грабавымі алеямі і рэшткамі фруктовых дрэў, дашчэнту пасечаны зараснікі бэзу і язміну, выносна-стройныя пірамідальныя таполі, амаль увесь лес, размешчаны на ўсходнім гарыста-высокім беразе возера. Затым, мала таго, уладальнікі суседняга фальварка, маючы вадзяны млын на ручаіне, што выцякала з ваколіцаў Свіцязі, скарыстоўваючыся месцам казённай службы ў цэнтральных губернях Расіі, пачалі давадзіць, што Свіцязь толькі тады будзе мець якое-кольвек значэнне, калі пачне даваць чысты прыбытак. Згаварыўшыся з Пушкарскім, яны прарылі ад вярхоўя рачулкі да возера канаву, мяркуючы такім чынам скарыстаць водную сілу возера для свайго вадзяка.

Дзеяннямі гэтых людзей чынілася неверагодная легкадумнасць. Не былі прамераны водныя запасы Свіцязі, пра сілу крыніцаў, што жывяць возера з дна, ніхто не меў уяўлення.

Коштам вялікіх сродкаў быў вырыты цэлы набор канаваў, якія даходзілі ўсходняга берага возера. Шырокімі варотамі вада хлынула ў зададзеным кірунку, затапіла і знесла сялянскія пакосы над рэчкай, захапіўшы і плаціну з вадзяком. Паверхня возера абнізілася амаль на два метры і спынілася на гэтым узроўні; белы прыбярэжны пясок выйшаў з-пад вады аж па самы чаротнік. Мясцовы люд быў моцна ўражаны праявай, памятаючы легенду

Рэчка Сэрвач змялела і зарасла, але не страціла адвечнага спрыту і стойкасці — бруіцца-шыецца скрозь густы лугавы разназёл у блакітную далеч. Я злез з ровара, спусціўся да рэчышча, нібы хацеў пераканацца, што смеццевы вал не абышоў і гэты маляўнічы куточак. І ціха папрасіў прабачэння...















Па дарозе на Свіцязь я не прамінуў магчымасці заехаць на хутар Завоссе, дзе больш як 200 гадоў таму нарадзіўся вялікі паэт беларускага краю Адам Міцкевіч.

пра затапленне свету вадой возера.

Аднак застаўся па-ранейшаму цудоўны ў сваёй красе і велічы паўднёва-заходні бераг возера, хай сабе толькі часткова нагадваючы пра сваё поўнае адвечнае хараство. Лес па беразе ёсць уласнасцю казны; размешчаны ў пясчанай сухой і ўзвышанай мясцовасці, ён дагэтуль ахоўваўся чынамі ляснога ведамства, і падчас, калі Пушкарскі пачаў па-варварску вынішчаць тое, што належала яму, Навагрудскія казённыя ляснічыя Козыраў і Альшэўскі ўздымалі ў Мінскім лесаахоўным Камітэце пытанне аб прызнанні ўсіх лясоў па-над возерам Свіцязь вадаахоўнымі (пасля высечкі лесу існавала небяспека ўтварэння сыпучых пяскоў).

Аднак для Пушкарскага гэта было вельмі непажадана і ён дамагаецца, каб накладзеная забарона была знята.

Сёння возеру Свіцязь пагражае канчатковае абніжэнне свайго першавобраза. Год таму Навагрудскае земства, трымаючы на ўвазе задуманае асушэнне тракта з Навагрудка ў мястэчка Гарадзішча, дамаглося распараджэння Мінскага губернатара высекчы на гліністым грунце ўсе лясы ўздоўж дарогі шырынёю 30 сажанёў. І гэта нягледзячы на тое, што далёка вакол возера глеба выключна пясчаная, што дарога тая не патрабуе ніякай асушкі, насупраць, тут сыпучага пяску хоць засыпся; нягледзячы на тое, што возера ляжыць на ўзвышшы, пазначаючы водападзел Балтыйскага і Чорнага мораў, акружана глыбокімі далінамі і падземнымі шляхамі, сілкуе вярхоўі чатырох, галоўных у павеце рэчак, што належаць да Балтыйскага басейна, — Сэрвачы, Нёўды, Моўчадкі і Ятранкі. Такім чынам, возера Свіцязь застаецца галоўным вадаёмам Навагрудскага павета і мусіць быць пад аховай не толькі мясцовых жыхароў, але найперш усяго Земства і Ўрада. Вынішчэнне лясоў па яго берагах ці самавольнае паніжэнне паверхні возера здольныя прычыніць непапраўнае зло наваколлю стварэннем лятучых пяскоў і высыханнем рэчак.

***1914***

■

На такой, затрывожанай ноце заканчвае свой нарыс Б.А.Данейка.Працягам ягоных нататак можа ў пэўнай меры быць сучасны дабор высноваў, у прыватнасці, юных сяброў экалагічнай экспедыцыі ў Свіцязянскі ландшафтны заказнік (кіраўнік Т. Рысянкова, Рэспубліканскі экалагічны цэнтр навучэнцаў, Мінск, 1999). Яны не прамінулі заўважыць, напрыклад, што лясныя экасістэмы паблізу возера значна церпяць ад вялікага чалавечага громазду. У прыбярэжнай паласе (да 50 метраў) вытаптана ў сярэднім 45 працэнтаў жывога наглебавага покрыва, пашкоджана карэнне векавых дрэў (яліна, дуб). Уціск на прыроду, якая ўважаецца за адзін з шэдэўраў беларускай спадчыны і мае статус ахоўнай з 1970 года, нягледзячы на пэўныя абмежаванні застаецца некантраляваным. Парушаецца водаахоўнае заканадаўства. Не стае і навуковых абгрунтаванняў, без якіх рэальны ахоўны рэжым наўрад ці магчымы, а кантроль — выніковы.

Арніталагічная група юных даследчыкаў адзначыла небагаты відавы склад вадаплаўнай арнітафауны ў розных ландшафтных умовах заказніка. Птушкі пазбаўлены прыродных сховішчаў і добрай кармавой базы, засведчылі ўдзельнікі экспедыцыі. Апроч іншага, яны прапануюць сістэматычна прыбіраць берагі возера ад падмытых паваленых дрэў і ўмацоўваць прыбярэжную частку валунным матэрыялам.

Што праўда, пагрозаў у Свіцязі сёння намнога больш, чым гэта магчыма схапіць нават спрактыкаванаму пільнаму воку прыродалюба. Аднак, нягледзячы на гэта, з 1975 года тут не вялося ніякіх навуковых даследванняў; тымчасам прэсінг на жывое люстэрка і яго зялёныя прылегласці толькі за апошняе дзесяцігоддзе павялічыўся ажно ўтрая. Прыкладам, у 1990 годзе ў летнія выходныя на возеры і ў прыазернай зоне адпачывала ад 3 да 5 тысячаў чалавек, цяпер жа 13-15 тысяч. На беразе невялічкага (напраўду — пацеркавага) возера размешчаны пансіянат «Свіцязь»; побач, на адлегласці працягнутай рукі бяжыць дарога Баранавічы — Навагрудак; значна парадзелі лясныя прылегласці заказніка, а навакольныя рэчкі не сталі паўнейшымі ды чысцейшымі, каб хоць колькі адвабіць ахвотных адпачыць на свежым улонні возера, — усё гэта стварае рэальную небяспеку і ўрэшце рэшт можа скончыцца катастрофай слыннай мясціны.

Як тут засцерагчыся? Перад самаю здачай нумара ў друк стала вядома пра намеры беларускага чыгуначнага ведамства прыватызаваць пансіянат «Свіцязь» улучна з самім возерам. Гэта мае быць першы выпадак прыватызацыі ахоўнай прыроднай тэрыторыі. Курс, увогуле, прагрэсіўны. Улады, па ўсім відаць, не будуць чыніць перашкодаў. Адміністрацыя прэзідэнта сытая нацыянальнымі паркамі і досыць лёгка ахвяруе Свіцязь. Іншая справа, інтарэсы новага ўладальніка — на чым яны грунтуюцца: ці возьме верх **прыродаахоўны прынцып як справа святая?** Адказаць на гэтае пытанне пакуль немагчыма. Грамадства мусіць рызыкаваць.

Чым палохае гэткі праект? Непрафесіяналізмам і камерцыялізацыяй цяжка прадказальных «працэсаў». Сіндром хваробы Пушкарскіх лёгка актывізуецца ў грамадстве, дзе занядбаная дэмакратыя і безнадзейна хворая эканоміка. Зрэшты, захоўваючы прынцып Орхускай канвенцыі, трэба адкрыць пытанне перад грамадскасцю, магчыма, абвясціць адкрыты конкурс, у якім тое ж чыгуначнае ведамства возьме самы чынны ўдзел.

Чаго нельга дапусціць нам, сённяшнім, — гэта абніжэння, як піша Данейка, першавобраза возера і ягоных прылегласцяў. Зрэшты, набяромся крыху цярплівасці і дачакаемся першых высноў вучоных, якія, паводле самых апошніх звестак, маюць распачаць свае даследванні ўжо гэтым летам. Прафінансаваць работы на першым этапе згадзілася Беларуская чыгунка (ці не азначае гэта, што «працэс пайшоў» і прыватызацыя прыроднага аб'екта перайшла ў стадыю рэалізацыі).Адным словам, кропку ставіць пачакаем...

Ініцыятыва

## Ліпавая алея і тры дубы

Таццяна Марозава («БП»).

Размешчаныя ў мястэчку Астравец водаахоўнай зоне ракі Лоша на тэрыторыі газавай гаспадаркі і каля дому жыхара Астраўца сп. Александровіча ліпавая алея і тры дубы атрымалі статус помніка прыроды мясцовага значэння. Запаведана, такім чынам, яшчэ адна рысачка беларускага краявіду, лёгкім штрыхом пазначана тое, што варта ўшанавання і ўвагі — як напамінак пра нашу зямную красу.

Мясцовы шэдэўр прыроды ў родным мястэчку заўважыў малады экалагіст студэнт Гарадзенскага ўніверсітэта Яраслаў Пятроўскі. Ім жа і было ініцыявана наданне ўнікальнаму зялёнаму куточку помніка прыроды.

Па словах Яраслава, у яго на прыкмеце яшчэ шмат прыродных аб'ектаў, якія маюць усе падставы займець ахоўны статус прыродных помнікаў. Сваім клопатам будучы прафесіянал-эколаг лічыць таксама грамадскі кантроль за спаўненнем ахоўнага рэжыму тэрыторый і аб'ектаў раёна і вобласці.

Праекты

## На Міншчыне чыстай вады стане больш?

Уласная інфармацыя.

Мінскі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя распрацаваў і зацвердзіў праекты водаахоўных зон і прыбярэжных палосаў для рэчак вобласці. Паводле слоў начальніка аддзела аховы водных багаццяў Уладзіміра Зверава, такія ж праекты распрацоўваюцца і ў дачыненні азёр і вадасховішчаў, а для азёр Нарачанскай групы (Нарач, Мястра, Баторына, Белае), азёраў Свір, Вішнеўскае і вадасховішчаў Дубраўскае, Войкаўскае, Заслаўскае, Воўчкавіцкае, Крыніцы і Дразды распрацоўка праектаў завершана.

Водаахоўныя зоны і прыбярэжныя палосы з'яўляюцца прыродаашчаджальнай тэрыторыяй, дзе згодна з Водным Кодэксам рэспублікі абмежавана гаспадарчая дзейнасць, забаронены праезд і стаянка аўтатранспарту, размяшчэнне палатачных гарадкоў і інш. Для азнаямлення з праектамі, іх прапаганды сярод насельніцтва ўсім зацікаўленым трэба звяртацца ў раённыя інспекцыі прыродных рэсурсаў, а таксама ў аблкамітэт (т.285-27-93).

Нерушы

## Ідылія на паштовай марцы

Уласная інфармацыя.

Беларускі паштовы сэрвіс пабагацеў на марку, прысвечаную Белавежскай пушчы. Матыў яе традыцыйны, прынамсі, разбуральная гаспадарчая дзейнасць, якая ўсё больш ахоплівае гэты найбуйнейшы рэзерват, на малюнку не праглядваецца. Поўны ажур!




Суседзі

## Захаваць не адно Пушчу, але...

Паводле: газета«Ніва» (Беласток).

Урад Польшчы абнародаваў намер аб пашырэнні межаў Белавежскага парку на ўсю Белавежскую пушчу. Прапанова, аднак, сустрэла хвалю пратэстаў з боку мясцовых жыхароў і самаўрадаў. Саюз гмін Белавежскай пушчы выставіў патрабаванне адклікаць праект і распрацаваць урадавую праграму дапамогі на месцах, каб надалей у будучыні, бесканфліктна вырашыць складаную прыродаахоўную задачу.

Чаго збаяліся прыпушчанскія жыхары? Рэч у тым, што пераўтварэнне гаспадарчага лесу ў ахоўны аб'ект пагражае ім застацца без працы, якую давалі каля сотні невялікіх дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў. Пратэстуючы, яны хачуць атрымаць на пачатку гарантыі з боку ўрада, а менавіта — новыя працоўныя месцы, якія б дастасоўваліся да патрэбаў аховы Пушчы.

Тутэйшых жыхароў турбуе і тое, што апошнія гады масавага турызму ў Пушчы не назіраецца. Колькасць наведнікаў Белавежы сёння складае прыкладна 100 тысяч асобаў у год. А гэта таксама не робіць перспектыву дужа аптымістычнай. У цяперашніх умовах можна разлічваць толькі на турызм вузкага кола людзей, зацікаўленых лесам, яго расліннасцю і жывёлай.

Грамадскія кансультацыі вакол пытання аб пашырэнні Белавежскага парку працягнуцца да канца года, пасля чаго — у студзені 2001 — будзе прынята канчатковае рашэнне.

## Экафундацыя 2000



**Варта ўсім падумаць ды так абзадачыць, каб шырокі свет ідэнтыфікаваў Беларусь не з рогам раз'ятранай злыгі, а з прыгожай рагатаю галавою белавежскага зубра ў квяцістым вянку першароднае флоры**

Фундатар экасюжэта — таварыства з абмежаванай адказнасцю **«Інтраст»**, г.Брэст









Сад Віяленція

## Плантацыя з... слоіка варэння

Уласная інфармацыя.

Лекавы сад Віяленція ў Мінску налічвае многія сотні раслін, у тым ліку кустовых дрэў, якія акуратнымі дагледжанымі дзялянкамі межаць ледзь аглядную плошчу. Гаспадыня сада аграном Ірына Віяленцій, якая некалькі год таму прыняла распачатую справу з рук мужа Георгія Віяленція, распавядае гісторыю бружмелю камчацкага (па-расейску жымаласці):

- Аднойчы ў госці да нас завітаў калега з Далёкага Ўсходу. У якасці пачастунка прывёз слоік «сырога» варэння. Селі за стол. П'ём гарбату й каштуем варэнне. Смачнае, хвалім. Але частуемся вельмі ашчадна, налягаем больш на сіроп, а ягады прыпасаем, каб затым пасеяць. І вось праз колькі гадоў з тых ягадаў маем такую цудоўную плантацыю, — разам са спадарыняй Віяленцій глядзім на роўны радок закусцелай дзялянкі бружмелю камчацкага.— Адведайце, сёлета ягады рана паспелі.

Напраўду, рана, яшчэ толькі канец травеня. Ягады сіняватыя, як на ядлоўцы. На смак кісла-салодкія, поўныя соку, вельмі падобныя на беларускія бtypaвіцы-чарніцы.

Бадай, кожная расліна ў гэтым унікальным Садзе мае сваю гісторыю з'яўлення і разрастання. А на жэньшэневыя загоны, якія ў памерах не ведаюць роўных у Еўропе, жадаюць паглядзець шматлікія замежныя госці.

## Фота-адгадай

**(адказы, са старонкі 8)**

«Я сава, ці бачыце мяне?» — пытаецца ў нас адзін таямнічы персанаж.

«А я вожык-пяньчук, мохам парос. Пазналі?» — падае голас другі.

Так ажывае лясная казка.




Вандроўкі

## Перуанскія матывы. Дрэвы

Саша Годзіна, Марк Бэнс (фота)



Рэспубліка Пэру, якую абазнаная большасць з нас звязвае з горнымі пейзажамі Андаў далёкай Паўднёвай Амерыкі, досыць «сталая» сваячніца Беларусі: менавіта адтуль праз «горы і моры» прыйшла да нас бульба.

Саша Годзіна і Марк Бэнс, даўнія аўтары «БП», вярнуўшыся з падарожжа па гэтай цікавай экзатычнай краіне, прынеслі ў рэдакцыю фотаздымкі. Свой выбар для публікацыі мы спынілі на дрэвах. Першыя два здымкі зроблены ў трапічным лесе (дрэва капок і ліяны), а дрэва з адмыслова апрацаванай кронай «пад крыж» упрыгожвае ўлонне гарадскога храма.



Конкурсы

## Зацвітуць забалочаныя сады. У Брукліне

З рэдакцыйнай пошты

Міжнародны фонд Сент Эндру правёў конкурс у галіне аховы навакольнага асяроддзя 2000 года. Яго фундатары, сабраўшыся на сустрэчу ў траўні, вылучылі да фіналу тры заяўкі: комплексны праект, звязаны з эфектыўным кіраваннем утылізацыяй цвёрдых адходаў праз змяненне падыходаў (Індыя); падрыхтоўка і ўтылізацыя актываванага дрэўнага вугалю на грунце адходаў аліўкавых дрэў (Палестына); скарыстанне адходаў — утылізацыя кампосту ў працэсе рэканструкцыі забалочаных месц пражывання ў сістэме ачышчальных збудаванняў гарадскіх кварталаў (ЗША).

Прапановы індыйскіх эколагаў арыентаваныя на распрацоўку сацыяльна надзейнай, эканамічна жыццяздольнай, эфектыўна кіраванай і культурна-адказнай сістэмы ўтылізацыі цвёрдых адходаў.

Палестынскі праект скіраваны на вывучэнне і стварэнне няшкодных для навакольнага асяродку працэсаў утылізацыі, выкарыстання пры гэтым цвёрдых адходаў аліўкавых дрэў.

Трэці ўдзельнік фіналу прапануе выкарыстоўваць арганічную частку цвёрдых адходаў Нью-Ёрка дзеля атрымання перагною як першачарговага элемента глебы — з яе дапамогай плануецца абярнуць амярцвелыя землі Брукліна ў забалочаныя сады.

Гэтае паведамленне, перададзенае рэдакцыі фондам Сент Эндру, мы, на жаль, не можам дапоўніць звесткамі пра пераможцу конкурсу, бо на момант выхаду газеты такая інфармацыя ў «БП» не паступіла.

## Віктарына

**Хто ведае лес за ўсіх лепш?**
**(адказы)**

**1.** Шуміць — хвойны. **2.**Сасна з'яўляецца раслінай, якая любіць святло. **3.** Вясной. **4.** Елка. 5. Ад перападаў тэмпературы паветра. **6.** Расліна расце верхавінкай, там самае маладое лісце,якое трымаецца даўжэй. **7.** З лістоўніцы. **8.** Драўніна сасны. **9.**Драўніна лістоўніцы. **10.** Лісце маліны, суніцаў, чабору. **11.** З елкі. **12.** З асіны. **13.** Так іх лепш убачаць насякомыя-апыляльнікі. **14.** Попаўзень. **15.** Трава ўначы надзвычай астывае, што ёсць прычынай кандэнсацыі, калі яна кранаецца вадзяной пары паветра.